ISSN 0320-7579

№ 2/2015(1041)

# Бярозка

Ствараць лепшае



## МІЛАНА БАРОДКА:
Чатыры гадзіны ў чарзе за марай

## ТАРАС НА ПАРНАСЕ
Дасціпнае чытанне

## ЗУБАГОЙЗЯ!
Парады прывіда

## ГАТАВАЛЬНЯ
Што прасцей за параную рэпу?

# ПРА КАХАННЕ (ТОЛЬКІ ДЛЯ ХЛОПЧЫКАЎ)

Малюнак Аляксандра Алісейчыка

# За кулісамі оперы

***Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры прадстаўляе***

***Імя Ларысы Пампееўны Александроўскай вядома кожнаму аматару гісторыі беларускага тэатра. Оперная спявачка і рэжысёр, яна першай выканала партыю Кармэн на беларускай сцэне і першай з артыстаў музычнага тэатра Беларусі атрымала званне народнай артысткі. У яе музейным мемарыяльным пакоі нібыта застаецца Муза, якая вабіць акунуцца ў першую палову мінулага стагоддзя — здаецца, не такога далёкага, але ад таго не менш загадкавага.***





Яе канцэртныя сукенкі выглядаюць элегантна і нібыта зноў просяцца на оперную сцэну!



Японскі летні парасон нябеснага колеру — ці не гэта знак высокага густу, элегантнасці і лёгкасці?



Нельга не ўявіць, як прыбіралася перад люстэркам таленавітая прыгажуня, перш чым выйсці на сцэну.





Вялікі стары лямпавы радыёпрыёмнік і піяніна — рэчы, без якіх паветра ў пакоі, напэўна, не было б такім натхняльным.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, Музычны завулак, 5.***



Мастачка Юлія УСАВА

# Рабінка штосьці шэпча мне…

## СОНЕЧНЫ ПРАМЕНЬЧЫК

Сонечны праменьчык
Зазірнуў у хату
Паглядзеў на маму,
Паглядзеў на тату,
І на дзвюх сястрычак
Алесю і Аню,
Потым на старэнькую
Бабулечку Маню.
А яшчэ прыкмеціў
У кутку, на ложку,
Разам з кацяняткамі
Іх матулю-кошку.
Палічыўшы ўсіх нас,
Скочыў у аконца,
Ізноўку вярнуўся
Дадому, на сонца.

*Ганна ВАСЮКОВА,*
*6 клас, гімназія № 10, Мінск*

## ЗІМОЙ

Зіма засыпала ўсё снегам,
Прырода бы ў чароўным сне.
А за акном мая сяброўка
Рабінка штосьці шэпча мне.

Зямля ад холаду знямела,
На сонцы шэрань зіхаціць…
Мая сяброўка корміць птушак,
Здалёку чырванню гарыць.

*Вольга АНТРОПАВА,*
*9 клас, СШ № 1, Ельск*

***

Празрысты лёд,
Бялюткі снег
І нашых санак хуткі бег.
Душа смяецца і спявае…
І толькі ўзімку
Так бывае!

А санкі ўсё хутчэй
Бягуць,
Як птушкі белыя
Лятуць…
Душа смяецца і спявае,
Бо толькі ўзімку
Так бывае!



***

Песня мілагучная
З вуснаў маіх зрываецца…
З вуснаў маіх зрываецца
І ўсё ляціць, не спыняецца!

Словамі роднай мовы
Песня пераліваецца…
З вуснаў маіх зрываецца
І ўсё ляціць, не спыняецца!

*Дамінік МАЦУКЕВІЧ,*
*5 клас, гімназія № 10, Мінск*

## ЛЯНІВІЦА ЗІМА

Бясснежная зіма
Сумётаў не будуе:
Лянуецца сама
Ці снегу нам шкадуе?
Заснула — не разбудзіш…
Мароз жа не драмаў.
Ну, што рабіць з ім будзеш:
Акно размаляваў!

## ЦЁТКА-ЗАВІРУХА

Лёгкія сняжынкі
Ветрам падхапіла
І мне ў твар пушынкі
Колкія пусціла
Цётка-завіруха.

Снегам засыпае
Вузкую сцяжынку,
Коўдрай засцілае
Кожную травінку
Цётка-завіруха.

*Анастасія ЦЕЛЕШ,*
*8 клас, Ждановіцкая СШ, Мінскі раён*



*Мастачка Юлія УСАВА*

## НЕ ДАЙ, БОЖА, ВАЙНЫ НАШАЙ ХАЦЕ!

Не дай, Божа, вайны нашай хаце
І краіне губляці сыноў!
Не хачу чуць, як плачуць іх маці,
Не хачу бачыць жудасных сноў!

А хачу крочыць сцежкаю ў полі,
Бачыць спелых жытоў каласы,
Не касілі каб кулі ніколі
Залатой іх жытнёвай красы.

Хай жа сонца жыве ў нашай хаце,
Хай не сняцца нядобрыя сны!
Хай смяецца шчасліва дзіцяці
У краіне без слёз і вайны!

***Анастасія СІДАРЭНКА,***
***8 клас, гімназія № 10, Маладзечна***

## МОВА РОДНАЯ

Песняй цудоўнай, свабоднаю,
Льецца мова мая родная!
Запаветны глыток вадзіцы,
З чыстай празрыстай крыніцы.

Як пачую яе — ганаруся,
Што жыву я ў сваёй Беларусі!
Песняй цудоўнай, свабоднаю,
Льецца мова мая родная!

***Марыя КІРКЕВІЧ,***
***10 клас, СШ № 25, Мінск***

## АГЕНЬЧЫК

У печцы адной з хатаў
Гарэў Агеньчык…
І думаў:
«Вось згасну і не стане мяне,
Не будзе свяціць больш полымя маё,
Не сагрэю я больш цяплом хоць каго!»
І ўспыхнуў ён нанава яркім агнём,
І жаданне гарэць моцным было настолькі,
Што шлях з печы адшукаць змог
Агеньчык…
Дакрануўшыся на волі да драўлянай
падлогі,
Сілу вялікую ён адчуў,
Як вада, расплыўся, свет вакол
вывучаючы,
За ўсе рэчы хапаўся, бо ўсё для яго было
Такім новым і такім незвычайным…
А прастора ўсё большая для Агеньчыка
адкрывалася,
Асвятлялася вакол такім чароўным
святлом…
Ці то ён — як магніт,
Ці то рэчы вакол — магніты?
Так хораша, калі ў хаце і цёпла, і светла!
— Але што гэта?! Навошта?
Чаму вадой заліваюць мяне?!
Цяпла, можа, мала я ім падараваў?
Ці, можа… можа, не тое я штосьці зрабіў?!

Такая, амаль чалавечая, думка прыйшла
да яго,
І так захацелася згаснуць ці проста
загінуць…
Бо ён жа хацеў толькі добрае людзям
рабіць,
Святло, цеплыню, дабрыню дараваць ім
бязмерна...
Ды сіле такой не накінеш ніякай аброці…

А раніцай роснай маленькі дрыжачы
Агеньчык,
Тужліва шаптаў на гарачым яшчэ
папялішчы:
— Прабачце, я так не хацеў!
Я хацеў толькі жыць…

***Аляксандр РАДЗІХОЎСКІ,***
***9 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён***



# Не, я проста люблю зіму

## Цудоўны час

Зімой усё блішчыць казачнай прыгажосцю. І раніцай, калі мы ідзём у школу, а на небе пабліскваюць яркія зоркі, і потым, калі мы выходзім са школьнага будынка, а на самым ганку нас сустракае прыветнае, хоць і не вельмі цёплае сонейка.

Гульні зімой вясёлыя. Дзеці качаюцца ў снезе, катаюцца на лыжах, санках і каньках, лепяць вялізных снегавікоў і яшчэ большыя замкі і вежы.

А яшчэ зімой вельмі прыгожыя сняжынкі. За гэтымі бліскучымі снежнымі зорачкамі можна назіраць гадзінамі. Яны напаўняюць сэрца такімі добрымі пачуццямі...

Зімні ветрык, вядома ж, не такі ласкавы, як летні, затое мароз малюе на вокнах такія ўзоры! Найлепшы мастак — ён!

Цудоўны час — зіма!

***Вікторыя ІВАНОЎСКАЯ,***
***6 клас, Міханавіцкая СШ***

## Вясёлыя ноткі і Снежная Каралева

Жылі-былі ў маленькім горадзе Вясёлыя ноткі. І вось аднойчы іх запрасілі выступіць на канцэрце.

Вясёлые ноткі вельмі ўзрадаваліся, хутка сабраліся і пайшлі.

— Ну вось, амаль прыйшлі! — сказала нотка ДО.

— Чакайце, а дзе ж нотка ЛЯ? — устрывожылася нотка СІ.

— І праўда, дзе ЛЯ? — устрывожылася РЭ.

— Мы ж не можам выступаць без яе! Мы ж адна каманда, — захвалявалася ФА.

І ноткі адправіліся шукаць ЛЯ. Доўга шукалі і ўсё ніяк не маглі яе знайсці. А тут да іх падляцела Сняжынка і сказала:

— Добры дзень, вясёлыя ноткі, я бачыла, як Снежная Каралева схапіла нотку ЛЯ і павяла ў свой ледзяны палац!

— Сняжынка, ты можаш паказаць нам дарогу? — усклікнулі ноткі.

— Канешне! — згадзілася Сняжынка.

І пайшлі яны да Снежнай Каралевы.

— Ваша Снежнасць, вярніце нам, калі ласка, нотку ЛЯ, — папрасілі ноткі Каралеву.

— І не падумаю! — толькі рассмяялася ў адказ Снежная Каралева.

Не ведаючы, што рабіць далей, ноткі доўга стаялі моўчкі. Але вось адна пачала ціхенечка граць сваю мелодыю, за ёй другая, трэцяя. І так пяшчотна і мілагучна загучала гэта мелодыя, што Снежная Каралева падняла галаву і пачала ўважліва слухаць.

Але ноткі нечакана скончылі граць.

— Чаму вы не граеце далей? — незадаволена запыталася Снежная Каралева.

— Бо нам не хапае ноткі ЛЯ, — адказала нотка ДО. — Аддайце нам ЛЯ, Ваша Снежнасць, і мелодыя наша будзе гучаць яшчэ прыгажэй!

— Добра, — згадзілася Каралева. — Вось ваша нотка ЛЯ!

— Дзякуй вам вялікі! — узрадавана загаманілі ноткі. — А за гэта мы запрашаем Вас на наш канцэрт!

— Толькі трэба хутчэй, бо можам спазніцца, — захвалявалася СОЛЬ.

— Не спозніцеся! — супакоіла Снежная Каралева. — Вось вам мая белая карэта! І я паеду з вамі на канцэрт!

***Настасся УСАЧОВА,***
***5 клас, Пагосцкая СШ, Салігорскі раён***

# Добрае суседства

З ранку да вечара стараліся вавёрачкі. У дуплах дрэў назапасілі арэхаў, на сучках грыбоў насушылі. Толькі адна вавёрачка да зімы не рыхтавалася. Скакала з галіны на галіну, весялілася. Думала, пэўна, што лету канца не будзе.

Але вось надышла восень, а за ёй і зіма са снегам. Холадна стала вавёрачцы, схавалася яна ў сваё дупло. Добра ў дупле, утульна… але ж есці раптам та-а-ак захацелася — не вытрываць. А ў дупле — ні арэшка, ні грыбочка.

Зразумела вавёрачка, што дарэмна яна да зімы зусім не рыхтавалася, і заплакала горкімі слязьмі.

— Што ж цяпер рабіць? — прыгаворвала яна, усхліпваючы.

Пачулі яе плач сяброўкі-вавёрачкі, вырашылі дапамагчы небарацы: не прападаць жа ёй з голаду. Прынеслі арэшкаў, сушаных грыбочкаў, ягадак.

Падзякавала сяброўкам вавёрачка за іх дабрыню. А наступным летам больш за ўсіх старалася. Назапасіла столькі арэхаў і грыбоў, што хапіла не толькі сабе, але і пачаставаць сваіх добрых суседак.

***Маргарыта КУДЭЛКА,***
***6 клас, гімназія № 1, Свіслач***

# Аблокі

Якое гэта цудоўнае відовішча — аблокі!

Яны непаўторныя, як малюнкі ў калейдаскопе. Адны ляцяць высока, другія — нізка, адны бялюткія, як ягняты, а другія — цёмныя, цяжкія. А колькі розных малюнкаў можна пабачыць — не пералічыць…

А яшчэ ёсць зусім асаблівыя воблачкі, якія можна ўбачыць толькі ў пахмурныя дні. Яны вельмі шпаркія, але асаблівасць у тым, што аблокі гэтыя ляцяць так нізка над зямлёй, што, здаецца, да іх можна дакрануцца рукамі…

Вось такія яны, аблокі! І ўсё плывуць кудысьці ўдалячынь і нясуць з сабою, у залежнасці ад нашага настрою, ці то сум, ці то вялікую радасць.

***Мікіта ЦЕЎ,***
***9 клас, СШ № 165, Мінск***

# Чаканне

Я чакала яе з нецярплівасцю, з салодкім заміраннем сэрца. Назірала, як напрыканцы лістапада спадарыні Восень і Зіма змагаюцца за права на валадарства: то марозік нечакана прыцісне, то рэзка пацяплее…

З раніцы на дварэ было сыра і няўтульна. Здавалася, што бляклаесць, пахмурнасць і нуда ніколі не скончацца. Сіноптыкі абяцалі дажджы, прадракаючы восені перамогу ў чарговым баі. Але неяк неўпрыкмет усё змянілася. Першая сняжынка легла на дол і хутка растала. За ёй — другая, трэцяя… Але гэта нічога ўжо не магло змяніць на карысць Восені. Снег, здавалася, і не падаў нават, а літаральна ляцеў насустрач зямлі, пераадольваючы нябачны паветраны бар’ер. І захацелася, як у маленстве, лавіць сняжынкі вуснамі, адчуваць іх халодны смак. А пасля — маляваць пальцамі на свежым бялюткім покрыве, пакідаючы там свае сляды…

У першы дзень снег не мог схаваць усю зямлю, але ж гэта толькі пачатак! У чаканні сапраўднай зімы можна, седзячы ў цёплай хаце, пабачыць яе ва ўяўленнях, мроях. Убачыць, як снег блішчыць, пераліваецца на сонейку ўсімі колерамі вясёлкі. Як мароз, нібы сапраўдны мастак, ноччу стварае свае шэдэўры на вокнах, а калі выходзіш на вуліцу, пачынае, свавольнік, шчыпаць за нос і шчокі.

Я мару… і так хораша становіцца на душы! Бо я мару пра снегавыя сумёты, бялюткія шапкі на дрэвах, уласныя лыжы і санкі, якія даўно чакаюць свайго часу…

Менавіта зімой адбываюцца цуды. Ёсць у гэтай пары года штосьці таямнічае, чароўнае, непаўторнае. Я люблю зіму за беласнежную прыгажосць, чысціню, свежасць, іскрыстасць. Я люблю яе за…

А ці трэба любіць яе менавіта за штосьці?

Не, я проста люблю зіму.

***Юлія АДАМОВІЧ,***
***11 клас, гімназія № 1, Чэрвень***




# Прывід старога замка

На абрывістым беразе ракі ўзвышаліся змрочныя руіны старога замка. Вялікі, моцны, пабудаваны з камянёў і цэглы шмат стагоддзяў таму, калісьці ён быў напоўнены жыццём. За яго сценамі праходзілі шыкоўныя балы, адбываліся святочныя вячэры, гулянкі… Вяселле і смех заўсёды панавалі тут. Здавалася, так і будзе, на вякі.

Але час ішоў — змяняліся ўласнікі, людзі, эпохі. Урэшце, ад былой велічы замка засталіся толькі тры вялікія вежы з чорнымі праваламі вокнаў-вачэй. І аніводнай жывой душы навокал, акрамя птушак. Замак стаяў далёка ад вёскі. Людзі не хадзілі сюды. Не тое каб вельмі ўжо баяліся — проста не было патрэбы. Хоць пры поўным месяцы замак выглядаў жудасна. У бязветранае надвор'е, калі, здавалася, чуеш, як расліна-ўюн чапляецца за сцены, каб узлесці вышэй, гэтая спакойная, але насцярожаная цішыня асабліва палохала. Раз-пораз яна прарывалася жудасным воклічам пугача, што пасяліўся ў адной з вежаў, альбо гучным лопатам крумкачовых крылаў. А вось кажан праляцеў зусім побач. Палёт ягоны, бязгучны і трапяткі, таксама мог напалохаць адзінокага падарожніка, які раптам вырашыў знайсці начны прытулак у развалінах.

Было ў замку яшчэ штосьці — больш жудаснае.

Расказвалі, быццам і ў ясную поўню, і ў самую цёмную непагадзь тут можна ўбачыць дзяўчыну ў белым адзенні, якая нетаропка праходзіць сярод развалін або стаіць у акне вежы. Яна можа з'яўляцца раптоўна з ніадкуль і гэтак жа раптоўна ў нікуды знікаць. І нязвыкла пранізлівы холад скляпення і могілак заўсёды суправаджае гэтыя з'яўленні і знікненні.

***

Хмары зацягнулі неба, але ні дажджу, ні ветру не было. Чалавек нават не бачыў, куды ішоў. Звычайны падарожнік, ён упершыню з'явіўся ў гэтых мясцінах. Падобна на тое, меркаваў ён, што начаваць яму давядзецца пад адкрытым небам.

Больш за ўсё падарожніка турбавалі хмары. Што, калі яны пральюцца ліўнем? А стаіць восень. Не хапала яшчэ захварэць.

Тут ён заўважыў вялізны сілуэт, яшчэ больш цёмны, чым пахмурнае начное неба.

— Якая ўдача! — прамовіў чалавек.

Але пры падыходзе адчуў расчараванне: мёртвыя разваліны…

Першая халодная кропля, нібы папярэджанне, апаліла скроню. Другая ўдарыла ў лоб. За ёй упала трэцяя…

Не губляючы ні хвіліны, падарожнік кінуўся да замка, навыперадкі з дажджом. Падбег да ацалелай сцяны і, падскочыўшы, здолеў учапіцца пальцамі за аконны праём. Потым, з цяжкасцю падцягнуўшыся, пераваліўся ўнутр.

Ускочыўшы на ногі, падарожнік спрабаваў агледзецца. Цемра стаяла страшэнная, ён не бачыў нават уласных далоняў. Навобмацак пайшоў уперад і натрапіў на нейкія дзверы ці, дакладней, тое, што ад іх заста-

лося. Крануў — і дзверы зваліліся з іржавых завесаў, моцна грукнуўшы аб пол. Гучнае рэха пракацілася па замку…

Абапіраючыся на сцяну, падарожнік дайшоў да кута і паспрабаваў там як мага зручней уладкавацца. І хоць зручнасці, на жаль, было малавата, ён паспеў нават задрамаць на нейкі час...

Ці то вецер за сценамі ўзмацніўся, ці дождж за акном быў таму прычынай, ды толькі моцны холад прабраў падарожніка да самых касцей.

Падарожнік здрыгануўся, расплюшчыў вочы і нібы скамянеў. Хацелася закрычаць, ускочыць, пабегчы, але ні язык, ні цела не слухаліся.

За некалькі крокаў ад падарожніка стаяла дзяўчына. Белая сукенка і сілуэт яе былі добра бачныя ў цемры. Чорныя, як крылы крумкача, валасы зліваліся з ноччу.

Дзяўчына глядзела на падарожніка, а ён глядзеў на яе.

— Х… хто ты? — здавалася, не сам падарожнік, а толькі ягоны непаслухмяныя вусны задалі пытанне.

Дзяўчына паглядзела на падарожніка так, нібы толькі цяпер яго ўбачыла. А ён убачыў тое, што не заўважыў адразу: дзіўную паўпразрыстасць субяседніцы і тую акалічнасць, што яна не стаіць на падлозе, а нібыта лунае над ёй.

— Я? Я жыву тут, — прашаптала яна ледзь чутна.

— Непадобная ты да жывой, — прашаптаў у адказ падарожнік, адсоўваючыся.

— Я жыла тут, — дзяўчына павярнулася, павольна падплыла да сцяны, асцярожна дакранулася паўпразрыстай рукой да халоднай цэглы. — Гэта было… як жа даўно гэта было… Мой бацька быў цудоўным чалавекам. Добрым і справядлівым. А я была адзінай ягонай дачкой, і ён так песціў мяне!

Падарожніку раптам падалося, што паўпразрыстыя вусны дзяўчыны кранула ледзь прыкметная ўсмешка… А мо яму гэта толькі падалося…

— Мне было чатырнаццаць, калі суседні магнат паслаў да бацькі сватоў. Немалады, багаты і ўплывовы, ён толькі што пахаваў сваю другую жонку. Дурань! — раптам ускрыкнула здань, і сэрца ў падарожніка сціснулася ад жаху. — Няўжо ён думаў, што мой бацька зладзіць вяселле супраць маёй волі?!

Дзяўчына змоўкла, задуменна падплыла да акна, нібыта спрабуючы позіркам выхапіць з глыбокай цемры ночы штосьці важнае. У замку на некалькі хвілін павісла цішыня. Падарожнік перастаў разумець, што адбываецца. Ці не сон гэта? Змярцвелыя рукі, ногі і спіна пачыналі балець. Сэрца, здавалася, калацілася так, што ледзь не выскоквала з грудзей.

Ліпкую цішыню разарваў замагільны крык, за якім пачуўся лопат крылаў. Нешта незразумелае з шумам уляцела ў пакой, пачало шалёна мітусіцца па ім, раз-пораз кідаючыся на падарожніка і драпаючы яго вострымі кіпцюрамі. Той закрычаў, адчайна размахваючы рукамі і спрабуючы адагнаць страшыдлу.

— Прэч! — пачуўся разгневаны голас дзяўчыны. — Ляці прэч!

Пачвара застагнала і вылецела праз акно.

— Пугач, — растлумачыла дзяўчына і, уздыхнуўшы, дадала: — Адзіны мой сябра і дарадца. Але чужых не любіць.

— І што было далей? — прашаптаў падарожнік.

У задуменні здань зноў падплыла бліжэй да аконнага праёма.

— У той час ішла вайна з крымскімі та-

Свежы адбітак пальца важыць прыкладна адну мільённую долю грама. Ён складаецца з вады, тлушчаў, бялкоў і солей. Застарэлы адбітак, згубіўшы ваду, вядома ж, важыць менш.

тарамі. І паўз наш замак везлі параненых. Бацька адразу ж прапанаваў дапамогу, параненых размясцілі ў пакоях, далі ім лекі, ежу. Сярод іх быў адзін малады шляхціц, Анджэй. Рана яго была цяжкая, ён доўга заставаўся непрытомным… нават калі ўсе астатнія ваяры ачунялі і раз'ехаліся. Ды лекар запэўніваў, што хлопец моцны духам і абавязкова павінен выжыць. А я… калі я ўбачыла яго ўпершыню…

Дзяўчына змоўкла, не дагаварыўшы.

— Разумею! — прашаптаў падарожнік. — Ты пакахала яго?

— І ён мяне таксама! — закрычала дзяўчына. — І тыя хвіліны, якія мы праводзілі разам, здаваліся нам самымі шчаслівымі ў жыцці. І хоць Анджэй быў не вельмі знатнага роду, я адважылася папрасіць у бацькі блаславіць нас на шлюб. І — цуд! — ён адразу згадзіўся!

Дзяўчына ўсміхнулася шырока і шчыра, а ў вачах яе заблішчалі слёзы.

Калі здань загаварыла зноў, голас яе гучаў неверагодна сумна.

— У тую ж ноч на наш замак напалі! У нас было мала людзей, але мы ўсё ж вырашылі абараняцца. Бацька паслаў па дапамагу да суседа-магната, хоць і сумняваўся, што той даруе крыўду і дапаможа. Божа, як адчайна мы змагаліся! Я сама страляла з мушкета… А потым ворагі апынуліся на сценах… «Уцякай!» — загадаў мне Анджэй, кідаючыся ў самую сечу. Недзе там быў і бацька. Я моўчкі, нібы скамянелая, глядзела, як дарагія мне людзі губляюцца ў шалёным вар'яцкім натоўпе. А потым пабегла. Я бегла пад крыкі, стогны, бязлітасны лязгат зброі… Мне здавалася, што гэта — страшны сон, і трэба толькі прачнуцца! Апамяталася, калі апынулася ў склепе, дзе ля сцяны стаялі бочкі з порахам.

Святло паходні, якую я трымала ў руцэ, было даволі змрочным і ўвесь час мігцела, але я нават не заўважала гэтага. Мне так хацелася, каб усё добра скончылася, каб сусед зліταваўся і паспяшаўся на дапамогу. І каб яна паспела своечасова, гэтая дапамога… Я не ведала, колькі прасядзела на халоднай падлозе, прытуліўшыся спінай да адной з бочак. Я думала пра каханага і бацьку і нават не адразу заўважыла, як у склепе з'явіліся людзі, сярод якіх той самы магнат, што прасіў маёй рукі. Мяне ахапілі страх, адчай і надзея.

Але магнат толькі ўздыхнуў. «Яны загінулі, — прагаварыў ён. — І твой бацька, і гэты шляхціц Анджэй. Мае людзі не паспелі». І раптам дадаў нечакана змененым голасам: «Цяпер, спадзяюся, ты мне не адмовіш? Станеш маёй жонкай?»

Жудасная здагадка апаліла мяне. «Гэта ты! — закрычала я, адступаючы да сцяны. — Гэта твае людзі напалі на нас! Ты забіў бацьку і Анджэя!» Разгубленасць прамільгнула на твары магната. «Ды ты што? — прашаптаў ён. — Што ты вярзеш? Я спяшаўся на дапамогу, але не паспеў! А наконт таго, каб стаць маёй жонкай… у цябе няма зараз іншага выйсця, дзяўчынка!» — «Выйсце заўсёды ёсць! — закрычала я. — Як ёсць і Боскі суд, на які я ўсіх вас выклікаю!» Гэтыя людзі зразумелі мае словы толькі тады, калі я паднесла паходню да бочкі з порахам. «Не трэба!» — выгукнуў магнат, змяняючыся ў твары. Гэта былі ягоныя апошнія словы… А таксама апошнія хвіліны майго жыцця…

Дзяўчына змоўкла. Сцерла далонькай слёзы і павольна пачала падплываць да падарожніка. У вачах былі боль, адчай і яшчэ нешта незразумелае.

— Калі я ўсё зрабіла правільна, то чаму засталася тут?! — пракрычала дзяўчына.

Надыходзіў новы ранак.

Падарожнік па-ранейшаму сядзеў ля сцяны, марна стараючыся суняць дрыжыкі. Потым, нібыта схамянуўшыся, узняўся на няцвёрдыя ногі і пабег. Толькі б далей ад жудасных гэтых развалін. Як мага далей...

Стары замак зноў застаўся ў адзіноце.

***Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,***
***11 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён***

# Загадкі палясоўшчыка («Тарас на Парнасе»)

Аднойчы беларускаму шляхціцу, што цешыўся графаманіяй, стукнула ў галаў нашрайболіць паэму на мясцовым дыялекце. У гэтым творы антычныя багі і багіні размаўлялі па-беларуску, паводзілі сябе як тутэйшыя Янкі ды Матруны, а, значыцца, і беларускую мову зрабілі трошкі боскаю. А самі паводзілі сябе рыхтык тутэйшыя, перапрашаю, людзі.

Вунь якой паўстае, прыкладам, красуня багіня Венера:

Во перад люстрам задам меліць
І маслам мажа валасы
Ды нечым белым твар свой беліць
Венера, знаць, дзеля красы.

Каго толькі не лічылі аўтарам адной з першых паэм на сучаснай беларускай мове! Думалі, што гэтак пажартаваў даволі сур'ёзны шляхціц Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, які жыў у маёнтку Люцынка разам з жонкаю і дзеткамі, пісаў быліцы, паэмы, п'есы па-беларуску і складаў у куфэрак. Той таямнічы куфэрак патануў у лабірынтах часу, дык, можа, з яго выплыла паэма «Тарас на Парнасе»?

А іншыя думалі, што паэму стварылі вясёлыя студэнты з Гора-Горацкай акадэміі, што ў Горках Магілёўскай губерні, стварылі, каб людзі гора не ведалі, а ведалі нашых.

Даследчык беларускай літаратуры, доктар Генадзь Кісялёў усё жыццё прысвяціў пошуку аўтараў двух беларускіх парадыйных паэм, якія лічыліся ананімнымі, — «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе». Ён быў наш беларускі Шэрлак Холмс, толькі пытанне «Хто забіў?» для яго фармулявалася як «Хто напісаў?» Праседжваў гадзіны і гады ў архівах, але ўрэшце адшукаў «вінаватых». Прынамсі, аўтар «Тараса на Парнасе» вылічаны з верагоднасцю да дзевяноста працэнтаў.

*Хто аўтар?* Гэта першая загадка праграмнага твора.

Канстанцін Вераніцын, што быў родам з вёскі Астраўляны на Віцебшчыне, ашалеў бы ад уздзіву, калі б даведаўся, што ягонай сціплай асобе прысвяціў амаль усю сваю навуковую кар'еру доктар Генадзь Кісялёў. К. Вераніцыну належыць таксама паэма «Два д'яблы», што засцерагае ад шкодных звычак (пачытай, дружа, вельмі павучальна).

Аўтар засмяяўся б або заплакаў, калі б дазнаўся, што пакаленні беларускіх школьнікаў і студэнтаў гадаваліся на ягоным творы. Што на гэтым шэдэўры абараняліся кандыдацкія і доктарскія дысертацыі. Што ягоны сціплы Тарас загаварыў па-англійску, па-нямецку і па-руску дзякуючы перакладчыкам М. Лазінскаму, В. Рыч і У. Папковічу.

Новая беларуская літаратура паўставала з руінаў, з попелу забыцця дзякуючы жарту, пародыі, казусу, створанаму дзеля пацехі адным крыўскім шляхціцам.

За савецкім часам інтэрпрэтатарыператварылі героя паэмы ў працавітага, сумленнага, назіральнага мужыка. Па новым прачытанні «Тарас на Парнасе» паўстае ў смузе недаўмення, пытанняў, загадак, бы таямнічае беларускае сонца ў лістападзе, калі беларускі заяц варыць сваё піва. (Гэта я маю на ўвазе знакаміты верш Уладзіміра Караткевіча «Заяц варыць піва», у якім вушасты паказаны сціплым і хітрым півам варам, які запускае восеньскія туманы і каштуе сваё піва напярэдадні халоднай зімы. Пачытай гэты верш, дружа, не пашкадуеш.)

Чаму пераапранутыя ў світкі і андаракі антычныя багі і багіні пакінулі свой Алімп і перабраліся на Парнас, дзе павінны былі прахалоджвацца Апалон з ягонымі дзесяц-

## НАМАЛЮЙ ТАРАСА З ПАРНАСА



*Праект мастака Аляксандра* ***КАРШАКЕВІЧА***

цю музамі? Хіба да актрысаў васпанства пацягнула? І гэта *другая загадка* паэмы «Тарас на Парнасе».

К. Вераніцын быў дасведчаны ў міфалогіі. Але яму патрэбныя былі багі, што зваліліся з катурнаў, і гара, на якую палезлі пісьменнікі, жук і жаба.

Вось штурмуюць Парнас «багі» расійскага пісьменства Ф. Булгарын, Н. Грэч, У. Салагуб. (Гэта не той Ф. Салагуб, што напісаў містычны раман «Дробны д’ябал», а той, што напісаў усяго толькі аповесць «Тарантас». Можаш не чытаць, дружа). Больш за ўсё не пашанцавала Фадзею Булгарыну, на якога аўтар абрынуў з’едлівыя радкі:

Гляджу сабе — аж гэта сівы,  
Кароткі, тоўсты, як чурбан,  
Плюгавы, дужа некрасівы,  
Крычыць, як ашалелы, пан.  
Нясе вялікі мех пан гэты,  
Паўным-паўнюсенькі набіт.  
Усё там кніжкі ды газеты,  
Ну, як каробачнік які!

Небарака! У свой час яму задаў пытлю Аляксандр Пушкін, бо не залюбіў яго за «доносительство» і адрасаваў яму знішчальную эпіграму:

Не то беда, Авдей Флюгарин,  
Что родом ты не русский барин,  
Что на Парнасе ты цыган,  
Что в свете ты Видок Фиглярин.  
Беда, что скучен твой роман.

На Ф. Булгарына, свайго суайчынніка, аўтар «Тараса на Парнасе» таксама вастрыў зуб. Прыгадалася старая сямейная гісторыя: бацька Ф. Булгарына быў удзельнікам вызваленчага руху ў Польшчы і Беларусі, а сын выракся бацькоўскае справы, атабарыўся ў Санкт-Пецярбургу, з Тадэвуша ператварыўся ў Фаддзея і стаўся адэптам імперскай палітыкі. Зрэшты, у сваіх нудных раманах ён згадваў сям-там добрым словам Беларусь. Меў сантымент да пакінутай Бацькаўшчыны. Ён быў славянафілам, а аўтар «Тараса на Парнасе» славянафілаў на дух не пераносіў. Яго аж трэсла ад сярмягі, лапцяў і кваснага патрыятызму. Яму збрыдла славянафільская звычка абагаўляць мужыкоў і абмужычваць багоў. Можа, таму ён і напісаў паэму-пародыю.

Не слухайце, калі вам гавораць, што Тарас — просты селянін. Ніякі ён не селянін і ніякі не просты. Тарас — не пан і не мужык. Ён палясоўшчык, а гэта значыць той, хто гэтых самых мілых мужычкоў ловіць у лесе і абкладае штрафамі за тое, што дрэвы незаконна высякалі і браканьерствам займаліся. Мужыкі такога, натуральна, ненавідзяць. А ён, напэўна, ненавідзіць і сябе, і тых, каму служыць. Служыць вераю і праўдаю, бо, як

беларус, кожную справу робіць грунтоўна і дбайна.

> Што ж, чалавек ён быў рахманы,
> Гарэлкі ў губы ён не браў,
> Затое ў ласцы быў у пана —
> Яго пан дужа шанаваў.
> Любіла тож Тараса й паня...

Цікава, за што?

> І войт ні разу не збрахаў...

З гэтага вынікае: Тарас умее ладзіць з начальствам. Можа, і перастараўся ў сваім паслушэнстве, і помста насунулася на яго ў абліччы мядзведзя, які і накіраваў палясоўшчыка ў навуку — на той свет. Прынамсі, за што быў пакараны працавіты палясоўшчык — гэта *трэцяя* яго загадка. А *чацвёртая* — за якія такія заслугі перад мастацтвам ён быў дапушчаны на гару?

Парнаскія небажыхары — Зеўс, Гера, Марс, Нептун, Геркулес, Амур ды іншыя — паказаны ва ўбогім і карыкатурным выглядзе не таму, што яны такія і ёсць, а таму, што такімі іх пабачыў Тарас. Вось яны якія, тыя, для каго ён некалі дзіка за нагу да дрэва навязваў падчас палявання. Тарас не шкадуе нават сівізну Зеўса:

> Ён грэў на печы стары плечы
> І нешта ў барадзе шукаў.

І разам з тым Тарас не адмаўляецца ад боскіх пачастункаў. А чаму б і не, калі тут усё так апетытна? Пачытай, дружа, як частуе багоў пакаёўка Геба:

> Наперш дала яна капусту,
> Тады са скваркамі кулеш,
> На малацэ крупеню густу
> Дае уволю, толькі еж.
> І з пастаялкай жур сцюдзёны,
> А з кашы сала аж цякло, ды і гусяціны смажонай
> Уволю ўсім багам было.

…дык у васпана самога пацякуць слінкі і забурчыць, як у Тараса, у жываце. Наш класік Уладзімір Караткевіч знаходзіў у гэтых радках доказ таго, што беларусы любяць пад'есці (гэта ў цудоўнай кнізе «Зямля пад белымі крыламі», пачытай, дружа, не пашкадуеш).

Не, недарэмна Тараса пусцілі на Парнас разам з Пушкіным, Лермантавым, Жукоўскім і Гогалем. Калі б ён мог бы пісаць як прафесіянал, стаўся б універсальным сатырыкам кшталту Бранта, Свіфта, Салтыкова або Мрыя. А так — у памяці занатаваў, аўтару пераказаў, а той «у кніжку запісаў».

Ён нікому нічога не абавязаны. Пачаставалі, налілі чарку — а ён ім за гэта пад дудку паскакаў. І — бывайце, на тым свеце пабачымся. Час ідзе, старыя багі саступаюць месца новым, а ён, не мужык і не пан, застаецца на сваёй лясной службе. Хіба што зрабіўся не такім паганым да мужыкоў, не так заўзята іх ловіць у лесе ды штрафуе. Але ён ні пра што не забыўся. Такі менталітэт палясоўшчыка — трымаць на замку свае думкі і пра ўсё памятаць. Вось вярнуўся на гэты свет і прадыктаваў пану Вераніцыну свае мемуары.

Ёсць у мастака Івана Крамскога карціна «Палясоўшчык». З-пад густых, як ажыннік, броваў глядзіць на цябе Тарас вачыма сінімі ды сцюдзёнымі, бы лязо сякеры, якую ён хавае за спінай. І што ў яго наўме, толькі Бог ведае. І не кожны наважыцца сустрэцца з ім сам-насам на глухой лясной сцяжынцы. І ў гэтых вачах хаваецца *апошняя загадка* Тараса: чаго ад яго яшчэ чакаць?

***Пятро ВАСЮЧЭНКА***

***У рубрыку «Бел. літ.» тэрмінова патрабуюцца самыя дасціпныя разборкі твораў школьнай праграмы ў выкананні настаўнікаў і вучняў.***

# Як не баяцца ночы

Чакай, не збягай! Ведаю я, што ты ўжо дарослы і не баішся такой... драбязы. Аднак у цябе можа быць малодшы брат, які дагэтуль ніяк не можа заснуць з выключаным святлом. Або ты ведаеш сімпатычную баязліўку. Дык дапамажы ім, затраціўшы колькі хвілін на чытанне маёй старонкі. Бо зможаш тады з бесклапотным тварам даць каму трэба колькі дзейсных парад.

Парада першая. Ад лемура. ЗУБАГОЙЗЯ!

Парада добрая ўжо тым, што калі каму не вельмі дапаможа, дык заўсёды гатова прычына: «Ты няправільна *зубагоіўзя*!» А як правільна? Перш-наперш, пастарайся не глядзець нанач тэлек і не гуляць у камп'ютарныя гульні. Бо нервовая сістэма збудавана так нязручна, што, атрымаўшы хвалю яркай інфармацыі, яна разганяецца, а потым доўга не можа затармазіць. Іншая рэч — кніга. Чытанне нанач мастацкай літаратуры супакойвае, ствараючы ў галаве адносны камфорт, і рыхтуе мозг да правільнага сну. Напой, які супакойвае і цэніцца нават у свеце прывідаў, — цёплае малако. Не любіш? Паспрабуй яго з лыжачкай мёду!

Для тых, хто любіць прыслухоўвацца да начных шоргатаў, — парада другая: засынай пад ціхую музыку. Мяккае святло начніка дапаможа таму, хто прызвычаіўся не толькі прыслухоўвацца да цемры, але і ўзірацца ў яе.

Парада трэцяя: калі ты АБСАЛЮТНА перакананы, што ў тваёй шафе жыве прывід, паспрабуй з ім… пасябраваць. Уяві, як яму самотна! І ён жа цябе ні разочку не пакрыўдзіў, ці не так? І надалей не пакрыўдзіць! Дай яму нястрашнае імя: Масік, Ганулька, Цудзік — і намалюй. Дадай трошкі смешных дэталек: клятчасты шалік, кошык з піражкамі, парашут… Усё роўна страшна? Можаш яго парваць, заўтра намалюеш яшчэ — і зробіцца весела.

І вось яшчэ што: паспрабуй прыдумаць смешную гісторыю, якая магла б здарыцца з тваім Самым Страшным Жахам. Дашлі яе мне, і калі гэта будзе сапраўды смешна (нават для нашага Дырэктара), то мы яе надрукуем.

Дарэчы, можаш прыслаць мне свой сон: я паспрабую яго разгадаць.



*Вітаю, дружа!*

*Што з таго, што я не ведаю тваё імя? Я ўжо і сваё не памятаю. Калегі назвалі мяне Аркашай: кажуць, я падобны да аднаго хлопца, які з'ехаў з глуздоў на глебе любові да камп'ютара. Але не! Не ад яркага экрана чырванеюць мае вочы! Я апантаны найвялікшай з маній — Маніяй Чытання! Спадзяюся, ты разумееш, пра што я. Бо калі трымаеш у руках гэты часопіс, значыць, у табе жыве дух Шукальніка Прыгод і Паляўнічага на Веды. Калі так, то я хачу з табой сябраваць. Са мною не засумуеш. У глыбінях стагоддзяў, праведзеных за кнігамі ў змрочным сутарэнні, мне адкрыліся вялікія таямніцы. Я навучу цябе разгадваць сны і змагацца са страхамі, раскажу пра варажбу і магію лічбаў, дапамагу зазірнуць у невядомае і распавяду пра загадкавыя знаходкі. Для пачатку… Я навучу цябе не баяцца.*

***Партрэт Аркашы намалявала Алёна ЛАРЫЁНАВА***

# Артыкул. Пакуль без назвы



*Прыдумаць добрую назву для свайго твора вельмі проста. Зараз распавяду, як.*

***Першае.*** Каб прыдумаць назву, трэба спачатку мець што называць. Лепей твор без назвы, чым назва без твора. Хоць часам здараецца і так, што спачатку ў галаву прыходзіць нейкі дасціпны або гучны варыянт выразу, які — ды вы проста перакананы ў гэтым! — запраста можа адыгрываць ролю назвы, а пасля ўжо даводзіцца думаць, што б такое цікавенькае гэтак дасціпна ці гучна назваць. Усяк, іначай кажучы, здараецца, але часцей працуе правіла, а не выключэнне з яго.

***Другое.*** Назва павінна адпавядаць зместу. Калі ты напішаш верш пра пінгвіна, а назавеш яго «Белы мядзведзь», то гэта выкліча непаразуменне чытача. З іншага боку, называць верш пра пінгвіна «Пінгвін» таксама не заўсёды цікава, асабліва калі ты імкнешся да арыгінальнасці. І хто ведае, можа, ты ў сваім вершы пра таго пінгвіна распавёў так, што ён уяўляецца чытачу не іначай як мядзведзем — такім магутным і кемлівым. Тады ты, безумоўна, маеш рацыю.

***Трэцяе.*** Творы розных жанраў і стыляў называюць па-рознаму. Навуковыя працы і афіцыйныя дакументы — суха і лагічна, так, каб амаль увесь змест быў зразумелы з назвы. Напрыклад, «Генезіс кансанантнай сістэмы старажытнаверхненямецкай мовы» альбо «Аб унясенні змен і дапаўненняў у пастанову № 153 ад 16.01.2008». Газетныя і часопісныя артыкулы прынята называць сцісла і трохі парадаксальна. Напрыклад, «Прышчы, каханне, скаліёз» альбо «2+2=5». Ты не ведаеш, што такое «парадаксальна»? О, вельмі проста. Парадаксальнае — гэта тое, што супярэчыць агульнапрынятаму, законам логікі. Мастацкія творы называюць альбо загадкава, альбо, наадварот, вельмі празрыста. А наогул, іх можна называць як хочаш: «Былі ў мяне мядзведзі», «Жэрміналь», «Жыціе пратапопа Абакума, ім самім напісанае» і гэтак далей, наколькі хопіць фантазіі.

Цяпер ***чацвёртае.*** Назва павінна завабліваць. Каб, прачытаўшы яе, хацелася даведацца, пра што далей ідзе размова! Напрыклад, «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Уладзіміра Караткевіча альбо «Галоўная памылка Афанасія» Югасі Каляды. Праўда ж, адразу карціць паглядзець, што рабіў у Гародні Хрыстос і ў чым памыліўся Афанасій?

***Пятае***, апошняе. Часам чатыры папярэднія парады можна ніяк не прымаць, а назва ўсё роўна атрымаецца добрай. Як гэта? Чаму так? Мы распавядзём і пра гэта, але пазней.

***Віктар ЛУПАСІН***



***Хатняе заданне:*** прыдумай назву для гэтага артыкула. Аўтара найлепшай назвы чакае прыз!

# Манета знікла! Як?

Пакладзі на паперку манету, паперку складзі, атрыманы «пакуначак» патрасі, потым разгарні... Манета знікла! Калі патрэсці паперку яшчэ раз, папярэдне склаўшы яе, манета зноў апынецца на месцы.

Як? Вазьмі дзве аднолькавыя паперкі памерам 10x10 см, складзі, як на малюнку. Потым склей іх «знешнімі» бакамі.

Такім чынам, фокус можна дэманстраваць некалькі разоў запар — манета то з'явіцца, то знікне, то зноў з'явіцца. Толькі памятай: дэманструючы фокус, паперку трэба трымаць гарызантальна.




***Андрэй МАРКАЎ***

# Крыжыкі-нулікі



А я прыдумаў шыкоўную гульню. Яна называецца крыжыкі-нулікі. Ха, скажаш ты, я гуляў у іх, калі мне было пяць гадоў. Нецікавая гульня, там заўсёды нічыя.

А я тады скажу, што мае крыжыкі-нулікі — асаблівыя. Гуляюць у іх на вялікім аркушы, а лінію трэба скласці не ў тры крыжыкі, а ў цэлых пяць.

Тады ты трохі падумаеш, загугліш і скажаш: маўляў, такія крыжыкі-нулікі былі шчэ ў старажытных кітайцаў і называліся го-моку. І дадасі, што пры правільнай гульні выйграюць заўсёды крыжыкі.

І тады я дадам яшчэ адно. Я дадам, што ў мае крыжыкі-нулікі гуляюць не да першай лініі, а пакуль ёсць куды хадзіць. І вось такой гульні на свеце яшчэ не было.

***Правілы вельмі простыя.***

1. Гуляемся на звычайным аркушы ў клетачку.

2. Калі ігрок робіць лінію ў 5 клетачак па гарызанталі, вертыкалі або дыяганалі, ён атрымлівае 1 ачко і 1 дадатковы ход.

3. Калі раптам атрымліваецца лінія ў 6 клетачак — два ачкі і два дадатковыя хады. Калі ў 7 клетачак — тры.

4. Перасякаць ранейшыя лініі можна, але нельга іх дамалёўваць.

5. Гульня ідзе, пакуль ёсць куды хадзіць і запісваць лік.

Як гэта выглядае на практыцы — глядзі на малюнку.

У маі хачу зладзіць па сваёй новай гульні чэмпіянат рэспублікі. Прыходзь!

***Віктар ЛУПАСІН***



# Важатая — чалавек дарослы

***Вераніка Мікалаеўна ў «Зубронку» яшчэ зусім нядаўна была для ўсіх проста Веранікай — аднойчы летам чатырнаццацігадовая дзяўчынка прыехала сюды адпачыць. Зараз, праз сем гадоў, яна тут працуе. Шлях ад выхаванца да выхавацеля быў няпростым. Чым Вераніку Няміраву так вабіць «Зубронак», што нават дарослая не можа ад яго адарвацца?***

— Спачатку, калі я прыехала сюды на летнюю змену сем гадоў таму, мне ўсё было нязвыклым: велімі строгімі падаліся парадкі, асабліва тая акалічнасць, што выхаванцаў пазбаўляюць мабільных тэлефонаў. У першыя дні добрая частка маіх новых знаёмых прасіла бацькоў забраць іх дадому. Але прайшоў тыдзень — і ўсе звыкліся. Праз некаторы час да нас у атрад прыйшоў трэці важаты, Павел Аляксандравіч Пятроўскі. Ён, як і я, захапіўся «Зубронкам» яшчэ ў дзяцінстве, калі адпачываў тут, і прыехаў сюды працаваць, як толькі з'явілася такая магчымасць. Менавіта ён паказаў мне «Зубронак» такім, якім ведае яго сам, бо шчыра любіць гэта месца і проста жыве працай тут. Высветлілася, што да ўсяго можна ставіцца нестандартна, з гумарам і ўсмешкай, атрымліваць асалоду ад таго, што адбываецца навокал. З той змены пачалося і маё захапленне гэтым цэнтрам. З таго часу я прыязджала толькі сюды. Адпачывала тут 8 разоў, але трапіць зноў да Паўла Аляксандравіча атрымалася толькі праз два гады. У яго, дарэчы, таксама ёсць такі «настаўнік», дзякуючы якому прачнулася любоў да «Зубронка», — Ігар Мікалаевіч Чэб, які працаваў тут болей за 20 год і цяпер прыязджае папрацаваць летам.

**— Але адпачынак без тэлефонаў... не здаваўся няпоўным?**

— У нашых важатых атрымалася зрабіць так, каб тэлефоны былі непатрэбнымі, іх ніхто ў рукі амаль не браў нават у дазволены для карыстання час. Важатыя прасілі нас патэлефанаваць бацькам, каб паведаміць, што ўсё добра. Тэлефоны пачалі нам замінаць! Я, уразіўшыся, таксама цяпер намагаюся рабіць так, каб дзеці былі настолькі задаволены адпачынкам у «Зубронку».

**— Што ж вас так вабіла?**

— Тут можна жыць і атрымліваць ад жыцця асалоду, тут не кранаюць ніякія праблемы і хваляванні свету. Пануе толькі атмасфера шчасця, дзяцінства, радасці. Я вырашыла, што хачу тут працаваць, гэта стала галоўнай марай і мэтай. Але бацькі былі супраць, каб я паступала ў педагагічны ўніверсітэт, казалі: «Не сур'ёзна». Давялося паслухацца іх і паступаць на сур'ёзны эканамічны факультэт. Але «Зубронак» не адпускаў: мы наведваліся ў госці, прыязджалі, калі ладзіліся змены для студэнтаў — «дзяцей» цэнтра, сустракаліся ў Мінску з атрадамі і важатымі. Вучоба на эканаміста не была мне ў радасць, хацелася іншага. Таму я вырашыла атрымаць другую вышэйшую адукацыю — стаць псіхолагам. У мінулым годзе скончыла эканамічны факультэт і дамовілася з бацькамі, што летам буду працаваць у «Зубронку», а потым пайду па спецыяльнасці. Ім гэта ідэя не спадабалася, але яны

згадзіліся. Прапрацаваўшы тут лета, я вярнулася ў Мінск і ўладкавалася ў банк. Менш чым тры месяцы спатрэбілася мне, каб зразумець, што гэта «не маё», што для такой манатоннай працы я пакуль не падыходжу. Праз крыкі і слёзы адстаяла сваё жаданне застацца з «Зубронкам» і ў пачатку наступнага лета зноў прыехала сюды працаваць.

**— «Дзіця «Зубронка» ў мінулым, як вы паводзіце сябе са сваімі выхаванцамі? Ці вялікая паміж вамі дыстанцыя?**

— Зразумела, дыстанцыя ёсць, бо я — важатая. Як бы ні хацелася, але роўных адносін быць не можа, нават улічваючы тое, што я сама, здаецца, не так даўно адпачывала ў адным з атрадаў. Але калі бачу, што ў каго-небудзь з дзяцей праблемы, хтосьці сумуе, то прапаноўваю падзяліцца сваімі турботамі, паразмаўляць. Нават калі я не ў сілах дапамагчы, то даць параду, сказаць: «Не хвалюйся, усё яшчэ будзе добра» — магу.

**— Што вас больш за ўсё прываблівае ў працы з дзецьмі?**

— Усе дзеці вельмі розныя, з разнастайнымі цікавасцямі і захапленнямі. Але прыязджаюць у асноўным лідары, здольныя прыдумаць і прапанаваць шмат незвычайнага. Калі ў адным атрадзе збіраецца шмат такіх генератараў ідэй, здольных ствараць нешта крэатыўнае на адным узроўні з табой, то ад працы атрымліваеш неверагодную асалоду. Дарэчы, паміж такімі актыўнымі дзецьмі ніколі не бывае канкурэнцыі за лідарства. Кожны мае сваё слова, выказвае свае думкі, прыслухоўваецца да іншых, а потым усе разам ажыццяўляюць тое, што прыдумалі.

**— А што ў такой працы асабіста для вас складанае?**

— Часта складанасці ўзнікаюць у сувязі з узростам. Мне больш за ўсё падабаецца працаваць з маленькімі дзецьмі, ад 7 да 10 гадоў. Цяпер, падчас школьных змен, прыязджаюць дзеці старэйшага ўзросту — 13—14 гадоў. Яны ўжо амаль дарослыя, іх складана перавыхоўваць ці чаму-небудзь перавучваць. Часам не адразу атрымліваецца знайсці да іх падыход, каб яны пачулі цябе і ўбачылі, што ты жадаеш ім самага добрага. Вельмі шмат часу ідзе на тое, каб дасягнуць паразумення наконт паводзін і дысцыпліны.

**— Ці ёсць якія-небудзь сакрэты, што рабіць, калі паразумецца не атрымліваецца?**

— Калі адносіны не складваюцца, можна даручыць якое-небудзь заданне: штосьці палічыць, зачыніць дзверы, сабраць тэлефоны — даць адчуць адказнасць, сваю неабходнасць і адцягнуць увагу ад непаслушэнства. Часам трэба дзейнічаць наадварот — на некаторы час перастаць звяртаць увагу на свавольствы, каб чалавек зразумеў іх бессэнсоўнасць.

**— Наконт свавольстваў: ёсць жа тыповыя для дзіцячага лагера не зусім дазволеныя забавы…**

— Канешне, без іх немагчыма абысціся, але ў «Зубронку» за гэтым сочаць і вельмі хутка прыпыняюць. Напрыклад, намазаць каму-небудзь твар зубной пастай не атрымаецца: дзяжурныя важатыя сочаць, каб уночы ніхто на шпацыр не выходзіў. Ды і настрой мы імкнёмся ствараць не для свавольстваў, а для карысных, вясёлых і цікавых спраў.

**— Якім, на ваш погляд, павінен быць сапраўдны выхавацель, каб дзеці яго любілі і паважалі?**

— Сапраўдны выхавацель павінен ісці не на працу, а да дзяцей, працаваць не 8 гадзін на дзень, а галавой, і ўспрымаць гэта як адпачынак.

*Гутарыла Кацярына ЗАХАРЭВІЧ*

# Сюды вядуць краязнаўчыя сцежкі





Пуцёўкамі ў «Зубронак» для ўдзельнікаў змены «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся» сталі цікавыя праекты. Усе госці — фіналісты аднаіменнай акцыі, а дакладней, пяці конкурсаў. Хтосьці ўявіў сябе экскурсаводам і распавёў пра цікавыя мясціны свайго горада, хтосьці перадаў прыгажосць роднага куточка праз фотаздымкі, нехта падзяліўся, чаму ганарыцца сваёй сям'ёй, а некаторыя сталі фіналістамі конкурсу творчых работ.

Мы трапілі на рэпетыцыю адкрыцця і пакуль адны складалі на сцэне сцяг, другія — дэвіз змены на месцах у зале, некаторыя распавялі нам, за што атрымалі магчымасць адпачыць у самым вядомым дзіцячым цэнтры, чаго чакаюць ад жыцця тут і што паспела іх уразіць за два дні.

Саша з Добруша атрымала пуцёўку ў «Зубронак» за перамогу ў конкурсе «Мая сям'я — мой гонар». Сашына сям'я — мама, тата і трое дзяўчынак — вельмі музыкальная: мае нават свой гімн! Таня — таксама дзяўчынка са шматдзетнай сям'і — распрацавала экскурсію па праваслаўных храмах Бабруйска, перамагла ў конкурсе «Мая малая радзіма» і спраўдзіла сваю даўнюю мару — трапіла сюды на адпачынак.

— «Зубронак» — цудоўнае месца, дзе ўсе чаканні спраўджваюцца, нават празмерна, — кажа Насця з аграгарадка Чырвонае.

— Тут сабраліся лепшыя. Вельмі шмат творчых людзей, з якімі можна знайсці агульныя тэмы для размоў. Падабаецца, што мы ўсё робім разам, ад пад'ёму і зарадкі да вячэрняга агеньчыка, — пагаджаецца Улад, які прыехаў з Драгічынскага раёна.

Са старэйшымі сябрамі-адзінаццацікласнікамі згодны і малодшыя госці цэнтра. Трынаццацігадовы Данііл з Ваўкавыска за два дні паспеў перазнаёміцца з усімі, хто побач, і сумаваць па доме не плануе: «Абяцалі шмат цікавых конкурсаў».

Юным фатографам, гісторыкам і краязнаўцам падчас змены даводзіцца працаваць: складаць праграму экскурсіі па Беларусі, якая пачынаецца менавіта з цэнтра «Зубронак». Экскурсіі плануюцца незвычайнымі. Напрыклад, па шляхах літаратурных герояў, па прамысловых аб'ектах ці нават такая — з заплюшчанымі вачыма.

*Кацярына ЗАХАРЭВІЧ*

# Чатыры канспекты на выбар



*Вядучы рубрыкі Андрэй Палупанаў*

## ДЛЯ РЭЖЫСЁРА
## ТРЫ РЭАЛЬНА НЕАБХОДНЫЯ РЭЖЫСЁРСКІЯ НАВЫКІ

✓ **Пазіцыя**

Рэжысёр — гэта чалавек, які ператварае ідэю ў візуальны прадукт. Гэта ён бачыць, як тэкст з літаратуры пераўвасабляецца ў карцінку. Калі мы чытаем тэкст, дзейнічае ўяўленне, яно малюе нам візуальныя вобразы. Але гэта не ўніверсальна. Іншыя людзі бачаць іншыя карцінкі. У сапраўднага рэжысёра ёсць аўтарскі погляд, сваё бачанне. Тут вельмі важна мець сілу характару, веру ў сябе і яснасць думкі. Гэта выяўляецца ў канкрэтным стаўленні рэжысёра да той ці іншай праблемы, сітуацыі.

***Практыкаванне 1:*** Напішы 10 праблем, якія цябе хвалююць. Расстаў іх у прыярытэтным парадку (па ступені важнасці). Спытай у родных і сяброў — ці хвалююць іх тыя ж праблемы. Параўнай вынікі. Што ты пра гэта думаеш? Напішы ў нашай групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.

✓ **Назіранне**

Рэжысёр павінен навучыцца назіраць, заўважаць дэталі. Важна разгледзець прадмет пад рознымі вугламі зроку, зразумець яго ўнутраны прынцып, «дыханне», тое, як ён працуе, уявіць яго ў розных кантэкстах. Неабходна вывучыць прадмет дасканала, каб разумець не толькі знешнія праявы, але і сутнасць. На першы погляд, гэта складана, але калі трохі патрэніравацца, то атрымаецца!

***Практыкаванне 2:*** Выберы звычайны прадмет (які бачыў ужо сто тысяч разоў). Разгледзь яго зблізку, здалёк, вакол, зверху, знізу. Паглядзі на яго пры святле, у цемры, у кухні, у прыбіральні, на балконе, у падвале і г. д. Глядзі на яго прыцэльна на працягу 10 мінут. Угледзься ўнутр, падумай пра яго. Прачытай пра яго ў інтэрнэце. Што ёсць цікавае пра іншыя такія ж прадметы? Даведайся нешта новае пра прадмет, які бачыў сто тысяч разоў, — дзяліся ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.

✓ **Камунікацыя**

Як унутранае адчуванне чалавека перанесці ў кадр? Напрыклад, калі персанаж радуецца, можна паказаць гэта праз акцёра. Але калі трэба перадаць радасць у стане прыроды? Што рабіць? Існуе цэлы арсенал інструментаў для таго, каб пераносіць эмацыйны стан на экран. Апрача акцёрскай ігры ёсць рух камеры, колер, святло, гук, рытм і многае іншае. Важна ўмець правільна паставіць задачу іншым удзельнікам здымачнага працэсу. На гэтым этапе ўключаюцца камунікацыйныя навыкі рэжысёра.

***Практыкаванне 3:*** Намалюй дом. Толькі такім чынам, каб табе дапамаглі ў гэтым 8 чалавек. Няхай адзін намалюе дах, другі — вокны, трэці — сцены, чацвёрты — дзверы, пяты — плот, шосты — сабаку ў двары, сёмы — вароты, а восьмы — гэта ўсё расфарбуе. Падабаецца? Гэта вынік таго, як ты заахвочваў і ставіў задачы. Выкладзі вынік у групу «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола, разам абмяркуем.

## ДЛЯ АКЦЁРА
## ЯК ПЕРААДОЛЕЦЬ ХВАЛЯВАННЕ? ТРЭБА МЕЦЬ БОЛЬШ ЗНОСІН

З хваляваннем цесна звязана тое, што чалавек доўгі час ні з кім не мае стасункаў, сядзіць дома за камп'ютарам. Яму ўсё цяжэй і цяжэй уваходзіць у соцыум для таго, каб нават пагаварыць. Натуральна ўзнікае страх.

Калі чалавек часта мае зносіны з сябрамі, выходзіць на вуліцу, гаворыць з прадаўцом, яму робіцца проста і ў кадры. Тыя ж правілы дзейнічаюць на кастынгу. Трэба памятаць, што людзі там самыя звычайныя. Не трэба думаць, што гэта асаблівае мерапрыемства, а не звычайныя стасункі з людзьмі. Тут трэба быць сабой. Калі чалавек паводзіць сябе штучна, гэта адразу прыкмячаецца. Цікава, калі чалавек жывы, арганічны, сапраўдны. Гэта працуе і на кастынгу, і на сцэне, і ў кадры.

***Практыкаванне.*** Загавары з 10 незнаёмымі людзьмі на працягу аднаго дня. Параўнай, як было з трыма першымі і трыма апошнімі. Падзяліся ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.

## ЯК ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА КАСТЫНГУ

**Правіла першае.** Калі ёсць тэкст, вывучыць яго на памяць. З паперкай ты прайграеш. Прафесіянал жа ведае тэкст назубок. Ён ужо думае пра тое, як прыгожа сказаць, а не пра тое, як прачытаць.

**Другое**. Трэба ведаць, куды ідзеш. Высветлі, хто рэжысёр, што ён здымаў, назву карціны, пра што яна.

**Трэцяе.** Якога персанажа будзеш іграць? Пажадана высветліць як мага болей пра праект. Можна паразмаўляць з людзьмі ў калідоры.

**Чацвёртае.** Перад кастынгам неабходна размяцца. Зрабі артыкуляцыйную і дыхальную гімнастыкі. Напружанне дапамагаюць зняць медытатыўныя тэхнікі. У наступных нумарах апішам некалькі такіх комплексаў.

**Пятае.** ***Галоўная фішка — упэўненасць.***

Звычка хадзіць на кастынгі выпрацоўвае ўпэўненасць у сабе. Таму пройгрышы трэба прымаць спакойна.

## ДЛЯ ПРАДЗЮСАРА
## СКЛАДНІКІ ПОСПЕХУ:

- ✓ ***Мэта***
- ✓ ***Каштоўнасць***
- ✓ ***Акупнасць***

Калі рэжысёр адказвае за творчасць, то прадзюсар — за вытворчасць: выдаткі і арганізацыю людзей праз шматлікія дамоўленасці.

**Першае**, з чым табе трэба вызначыцца як будучаму прадзюсару: ШТО ты хочаш ствараць? Інакш кажучы, убачыць МЭТУ. Якое кіно ты хочаш здымаць? Яно забаўляе? Палохае? Можа быць, прымушае думаць пра сэнс жыцця?

***Практыкаванне 1:*** апішы сваю МЭТУ!

**Другое** — каштоўнасць будучага фільма. Хто яго глядач? Якія эмоцыі ён выкліча? Простыя: смех, спалох? Складаныя: той самы смех, але праз тонкі, інтэлектуальны гумар, або спалох праз чаканне жудаснага — саспенс? Самая высокая ступень праявы эмацыйнасці гледача — катарсіс.

**Саспенс** *(англ. Suspense, ад лат. suspendere — падвешваць) — нявызначанасць, заклапочанасць, трывога чакання, прыпыненне.*

**Катарсіс** *(ад стар.-грэч.) — узвышэнне, ачышчэнне, аздараўленне.*

Найбольшую каштоўнасць мае той кінапраект, які нясе карысць грамадству і асобе. Прымушае думаць пра важныя рэчы, вучыць добраму.

***Практыкаванне 2:*** Апішы, якімі ты бачыш свае будучыя фільмы.

**Трэцяе:** выдаткі павінны акупляцца. Ёсць затрачаныя грашовыя сродкі, час, іншыя рэсурсы не толькі прадзюсара, але і розных іншых асоб. Прадукт працы павінен прынесці грошы, каб апраўдаць выдаткі. У лепшым

выпадку, прынесці прыбытак. Аднак ёсць цудоўныя фільмы, якія не прынеслі камерцыйнай выгоды. Як думаеш, чаму?

*Практыкаванне 3:* напішы сваё меркаванне ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.

## ПІТЧЫНГ-ФОРУМЫ

**Пітчынг** *(ад англ. «pitch» — выстаўляць на продаж) — прэзентацыя кінапраекта з мэтай пошуку інвестараў — асоб, якія гатовы прафінансаваць гэты праект.*

Каб праверыць жыццяздольнасць тваёй ідэі, трэба прымаць удзел у пітчынг-форумах і ўмець прыгожа прэзентаваць свой праект.

*Практыкаванне 4:* Уяві свой будучы фільм, запішы прадстаўленне на відэа (працягласцю 3 мінуты) і выкладзі ў групу «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола. Мы дадзім тебе рэкамендацыі і пракансультуем.

| Прадзюсар прадстаўляе свой праект, шукае партнёраў | Прадзюсар слухае выступоўцаў, шукае цікавы праект |
|---|---|
| Калі прадзюсар выступае на пітчынгу ў якасці спікера, ён павінен пакарыць слухачоў уменнем прыгожа гаварыць і быць харызматычным. Тут дзейнічаюць тры асноўныя прынцыпы:<br>✓ ***вера ў сябе***<br>✓ ***вера ў ідэю***<br>✓ ***вера ў каманду***<br>Упэўненасць павінна адчувацца ў голасе і ў тым, як ты сябе трымаеш на працягу ўсяго выступлення. Прадзюсар павінен ведаць патэнцыял ідэі, быць шчырым і адкрытым. Гэта адчуваецца адразу. | Калі прадзюсар хоча нешта выбраць, ён павінен разбірацца ў сучасных трэндах, ведаць апошнія навінкі, глядзець фільмы, чытаць box office. Таксама трэба ўвесь час маніторыць самыя буйныя кінафэсты, сачыць за тым, што збірае самую вялікую касу. Прадзюсар — гэта знаток мастацтва. Ён павінен разбірацца ва ўсім, што складае вытворчасць фільма. Гэта дазволіць яму хутка падлічыць выдаткі і магчымыя прыбыткі. |

## ДЛЯ АПЕРАТАРА

## ФОКУСНАЯ АДЛЕГЛАСЦЬ

Фокусная адлегласць — гэта такі паказчык у оптыцы, які дазваляе ведаць, якую шырыню кадра здольны захапіць аб'ектыў. Чым большае гэта значэнне, тым шырэй вугал зроку. Сыходзячы з фокуснай адлегласці ўсе аб'ектывы ўмоўна падзяляюцца на звышшырокавуглавыя (ад 7-8 мм (цыркулярнае «рыбіна вока») да 24 мм), шырокавуглавыя (ад 24 да 35 мм), нармальныя (ад 45 да 55 мм, такая фокусная адлегласць па перспектыве максімальна набліжаецца да чалавечага вока) і тэлеаб'ектывы (доўгафокусныя, ад 85 мм).

## БАЛАНС БЕЛАГА

Для аператара істотна ведаць пра колерную тэмпературу, каб правільна выстаўляць святло.

**Колерная тэмпература** *(спектрафотаметрычная або каларыметрычная; Тс) — характарыстыка інтэнсіўнасці выпраменьвання крыніцы святла як функцыі даўжыні хвалі ў аптычным дыяпазоне.*

Штучнае асвятленне — 3 200 К (цёплая карцінка), натуральнае асвятленне — 5 600 К (халодная карцінка).

## БУЙНАСЦЬ

Ёсць 6 тыпаў буйнасці, у якасці арыенціра лепей за ўсё выкарыстоўваць фігуру чалавека. Напрыклад, на агульным фоне фігура чалавека змяшчаецца цалкам. На сярэдніх планах чалавека відаць да пояса або да грудзей. Буйны план — гэта калі ў кадры цалкам змешчаны твар. Звышбуйны план або дэталь — гэта вока або вуха. Ёсць яшчэ дальні план — на ім чалавек нагадвае мураша.

*Практыкаванне.* Намалюй шэсць буйнасцей і выкладзі ў групе «Вконтакте»: Бярозка/КінаШкола.



# Аловак

Кожны год па ўсім свеце выпрабляецца чатырнаццаць мільярдаў алоўкаў. Калі б з іх зрабілі ланцужок, то можна было б абкруціць нашу планету шэсцьдзясят два разы!

У гэта цяжка паверыць, але яшчэ тры стагоддзі таму людзі не ведалі такіх алоўкаў, як сёння. Малявалі тонкім срэбным дротам, прыплаўленым да спецыяльнай ручкі. Шэрыя штрыхі, якія пакідаў срэбны аловак, з часам рабіліся карычневымі. Намаляванае ім нельга было сцерці. Такі ж прынцып меў і свінцовы аловак. Гісторыя захавала для нас і так званы «італьянскі» аловак, які з'явіўся ў XIV стагоддзі. Гэта быў стрыжань спачатку з чорнага сланцу, а крыху пазней — з парашку паленых костак і расліннага клею.

Графітны аловак — той самы, які сёння мы называем «простым», — вядомы ў Еўропе з XVI стагоддзя. Яго радзімай лічыцца Англія, і з'явіўся ён дзякуючы дрэннаму надвор'ю. Аднойчы моцная бура зваліла некалькі дрэў у мясцовасці Камберлэнд. Сяляне, што пасвілі авечак непадалёку, знайшлі ў зямлі між вывернутых каранёў цёмную масу, подобную на вугаль, але зусім не гаручую. З-за таго, што колер рэчыва нагадваў колер свінца, месцараджэнне прынялі за свінцовае, але выплавіць кулі з яго не атрымалася. Тым часам сяляне заўважылі, што невядомая маса пакідае на прадметах даволі добрыя сляды, — і пачалі памячаць ёю сваіх авечак. Крыху пазней людзі навучыліся выпрабляць з гэтага рэчыва тонкія завостраныя палачкі для малявання. Палачкі, што праўда, былі мяккімі і пэцкалі рукі, таму мастакі заціскалі іх паміж пласцінамі дрэва або галінкамі, абгортваючы іх паперай або абмотваючы вяровачкай.

У Германіі, знакамітай па ўсім свеце сваімі алоўкамі, іх вытворчасць пачалася ў 1719 годзе. Немцы здагадаліся змяшаць загадкавае рэчыва з серай і клеем — і атрымалі стрыжань не такой добрай якасці, але з нізкім коштам. Назва для рэчыва — графіт — з'явілася толькі ў 1789 годзе. Вучоны Карл Вільгельм Шэеле даказаў, што графіт — рэчыва з вугляроду, і даў назву ад старажытнагрэчаскага слова «графа» — «пішу».

У 1790 годзе венскі майстар Ёзэф Хардмут змяшаў пыл графіту з глінай ды вадой і абпаліў гэты замес у печы. У залежнасці ад колькасці гліны ў масе ён змог атрымаць матэрыялы рознай цвёрдасці. Між тым, у 1795 годзе незалежна ад Хардмута гэткім жа спосабам атрымаў графітавы стрыжань французскі вучоны і вынаходнік Нікаля Жак Контэ. Можна сказаць, што Хардмут і Контэ — вынаходнікі сучаснага стрыжня для алоўкаў.

Першыя драўляныя алоўкі выпрабляліся ўручную. Замес графіту, гліны, тлушчу, сажы і клею залівалі ў адтуліну ў драўлянай палачцы і асаблівым чынам выпарвалі. Адзін аловак выпрабляўся каля пяці дзён! Таму і каштавалі тады алоўкі вельмі дорага.

Драўляныя алоўкі трэба было пастаянна вастрыць. Спачатку людзі рабілі гэта пры дапамозе лёзаў. А ў 1828 годзе французскі матэматык Бернард Ласімон запатэнтаваў тачылку для драўляных алоўкаў.

Механічны аловак з'явіўся толькі ў 1869 годзе, калі амерыканец Алонса Таўнсэнд Крос змясціў графітавы стрыжань у металічную трубку, каб па неабходнасці высоўваць яго на неабходную даўжыню. Механічныя алоўкі адразу ж атрымалі вялікую папулярнасць, бо былі вельмі зручнымі, эканомнымі і іх не трэба было тачыць.

Нашы дзядулі і бабулі ведалі яшчэ адзін від алоўкаў — капіравальныя, або «хімічныя». Сляды пасля такога алоўка не сціраліся, бо ў стрыжань дадаваліся фарбавальнікі — эазін, радамін або аўрамін. Напісаны

Крок 1



Крок 2





Крок 3



Вынік

такім алоўкам дакумент змочвалі вадой, прыціскалі спецыяльным прэсам да чыстага аркуша — і на аркушы заставаўся люстраны адбітак. Пазней, калі з'явіліся шарыкавыя асадкі і капіравальная папера, «хімічныя» алоўкі былі зняты з вытворчасці.

З часу адкрыцця графіту вытворчасць алоўкаў зрабіла вялікі крок наперад. У сучасных алоўках выкарыстоўваюцца палімеры, якія робяць іх моцнымі і эластычнымі. Грыфелі для механічных алоўкаў сёння маюць таўшчыню меней за палову міліметра. Нам вядомыя «простыя» і каляровыя алоўкі. «Просты» аловак мае графітавы стрыжань і пакідае шэры след. У каляровых алоўках замест графіту выкарыстоўваецца крэйда з фарбавальнікам і белай глінай — каалінам. Таксама выпускаюцца воскавыя алоўкі. Сёння існуюць нават каляровыя алоўкі, якія можна есці! Яны зроблены пераважна з натуральных прадуктаў, і толькі ў тым выпадку, калі нельга знайсці адпаведны прыродны колер, у аловак дадаюць харчовы фарбавальнік. Такія алоўкі бясшкодныя і для навакольнага асяродку, і для самых маленькіх дзетак, а малюнкі, зробленыя імі, — абсалютна экалагічна чыстыя.

Сёння аловак лічыцца сімвалам натхнення і творчасці. З ім звязваюцца толькі добрыя прыкметы. Так, аловак, знойдзены на вуліцы, абавязкова прынясе шчасце таму, хто яго знайшоў. Аловак, убачаны ў сне, азначае, што чалавека чакае радасць або цікавы занятак.

Дарэчы, алоўкамі можна не толькі маляваць. З іх можна зрабіць сімпатычны вазончык або арыгінальныя ўпрыгожванні для шчырых аматараў малявання — пярсцёнкі, пацеркі, завушніцы. А дзяўчаткі з доўгімі валасамі добра ведаюць, што аловак можна выкарыстоўваць і ў якасці вельмі зручнай заколкі!

***Алёна БЕЛАНОЖКА***

# Першы зімовы паход

*Артыкул-падарожжа*



Гэта было не вар’яцтвам, а авантурнай ідэяй для рамантыкаў-экстрэмалаў і адначасова аматараў паходнага вогнішча. Мы з Сашкам даўно думалі паспрабаваць сябе ў зімовым паходзе, але ўсё ніяк рукі, дакладней, ногі, не даходзілі. Скарыстаўшыся больш-менш мяккім для студзеня надвор’ем, адразу пасля Новага года рванулі на прыроду.

На ўсялякі выпадак мы ўзялі ежы на тры дні, хаця сумняваліся, што застанемся ў лесе больш як на адну ноч. Наша сяброўка Дзіяна, што не прапускала ніводны паход, смяялася, маўляў, нават да вечара не даседзім.

Спачатку мы збіраліся на Вілейскае вадасховішча, ва ўсялякім выпадку бліжэй да цывілізацыі — аўтобусы з Мінска ходзяць некалькі разоў на дзень. Але Сашкаў старэйшы брат прапанаваў адчуць смак сапраўдных прыгод і звазіць нас за блізкі свет — на Блакітныя азёры. Ну, вядома, мы выбралі варыянт «на машыне».

У шматдзённыя паходы зімою апантаныя турысты цягнуць і плітку, і балоны з газай. Але мы збіраліся пастаяць толькі дзянёк на марозе — так бы мовіць, абысціся эканом-класам.

Некаторыя з Блакітных замерзлі, некаторыя — не. Напрыклад, лёд не скаваў чорнае Мёртвае возера, з-пад дна якога прасочваецца канцэнтраваны серавадарод. А вось суседняе і значна большае возера Глубля замерзла амаль цалкам. Вада засталася толькі там, дзе ў возера збягаюць крынічкі, што раз-пораз сустракаюцца ў гушчары. Да таго ж Глубля мае шырокі забалочаны бераг. Паміж лесам і краем лёду на нашых вачах гайдаліся купіны, прысыпаныя снегам. І гэта азначала, што там не цвёрды бераг, а багна. Такая няўстойлівая паверхня цягнулася ўздоўж лесу метраў пяцьдзясят ушыркі. Паскачы на адным месцы — і ўмомант завязнеш. Калі пашанцуе — па калена, не пашанцуе — можаш і па пояс убіцца. Узімку глыбока не правалішся — балота падмярзае, але ўсё адно непрыемна. Лепш не скакаць.

Але не ўсе такія баязліўцы. Сярод купінаў пятлялі сляды кабана і вадзянога пацука. Апошняга я нават бачыў некалькі разоў. Ён, пэўна, шукаў пад снегам рэшткі травы. Наогул, у лесе слядоў шмат: кабаны, алені, зайцы. Гэта ўсё заказнік. Тут палатку ставіць нельга. Проці ночы мы спыніліся на дазволеным месцы, глыбей у лесе, дзе за ракой Страчай схаваны азёры Балдук і Балдучыца.

У зімовым лесе так нязвыкла ціха, што дзівішся новым уражанням. Іх складана апісаць, яны не падобны ні да якіх іншых. Навокал вельмі спакойна і зусім не страшна. Толькі вельмі-вельмі холадна. Раз-пораз можа дрэва рыпнуць. А так — гіперцішыня.

Калі мы прыехалі, тэмпература была каля нуля. І шмат снегу. Галля для вогнішча назбіралі ў лесе. Яно хутка сохне каля агню.

Уначы тэмпература знізілася да мінус дзесяці. Вось тады мы аблаялі нашу экстрэмальную рамантыку: сядзіш ля вогнішча — твар грэецца, спіна мерзне. Павернешся спінаю — наадварот, спіна сагрэлася, твар

задубеў. Хоць ты так усю ноч і варочайся. Якой хваробы я падтрымаў гэту авантуру?

Хто лічыць, што спаць пры мінус дзесяці гэтак жа проста і бяспечна, як і пры плюс дваццаці, той вельмі памыляецца. Вогнішча саграваe паветра на пару метраў вакол, не больш. Каб хоць трошачкі падоўжыць цяпло ў бок палаткі, мы ўсталявалі самаробны адбівальнік з другога боку ад вогнічша. Сабралі ў лесе доўгія і кароткія палкі. Кароткія ўбілі ў зямлю, а доўгія замацавалі паміж імі, нібы склалі сцяну.

Але мароз усё роўна забраўся ў палатку. Засынаць было страшна. Колькі жахлівых гісторый ходзіць пра тое, што можа не прачнуцца той дурань, хто ўзімку апынуўся па-за ўтульнай кватэрай. Мы пашукалі пад снегам камень, каб нагрэць яго ў вогнішчы і перакласці ў палатку. Але было ужо цёмна. Каменя не знайшлі. Падрэзалі бляшанку з-пад тушонкі, натыкалі дзірак і зладзілі «кампактнае» міні-вогнішча ў палатцы. Кінулі ўнутр трэскі і падпалілі — якое-няк-кое, а ўсё ж цяпло.

Спаць дамовіліся па чатыры гадзіны і две гадзіны сачыць за вогнішчам. Мне давялося несці варту ў першыя дзве гадзіны, потым павінен быў прачнуцца Сашкаў брат, а зранку Сашка. Дзіяну вырашылі не турбаваць.

Ад вогнішча ішло такое мяккае цяпло, што неадчэпна хіліла ў сон. Патрэбна альбо неверагодная сіла волі, каб і на волас не задрамаць, альбо ўсвядоміць і завучыць на памяць перасцярогу: «Вогнішча астыне — астынеш і ты». Пакуль сядзеў глыбокай ноччу на варце, згадваў шматлікія плёткі Блакітных азёр.

І пра падвоенае дно — нібыта пад кожным з іх яшчэ адно, падземнае возера знаходзіцца, ды што яно хавае — ніводзін валадаз не высветліў. І пра шматлікія капішчы на берагах, у тым ліку вікінгаў, якія на шляху з варагаў у грэкі нявядома для чаго пакідалі тут сваіх памерлых. І пра разнастайныя вобразы-міражы, што з'яўляюцца да мясцовых жыхароў: сведкі апісваюць то светлыя



шары, то цёмныя здані ваўкалакаў. І нават пра падазроныя тэктанічныя разломы, якімі цікавіцца ледзь не кожны беларускі ўфолаг.

Ці то ноч была занадта халодная, ці то прывіды саромеліся, але нічога жахлівага ці містычнага на працягу маіх дзвюх гадзін не тое што не бачыў, а нават не чуў. Гіперцішыня — памятаеце? Ні зданяў, ні вадзянікоў, ні НЛА. Можа, памерзлі ва ўмовах беларускай зімы?

Зранку на двары пацяплела. Снег і лёд на возеры пачалі таяць. Але доўгая ноч, бясконцыя гурбы снегу і вільготныя шкарпэткі так стамілі нас, што мы пачалі збірацца дахаты, ледзь неба стала светла-шэрым. Ад'язджалі хутчэй, каб выбрацца з гэтага лесу. Здавалася, калі б нават тэлефон згубіў, ні ў якім разе б не вярнуўся. Да Мінска было сто семдзесят кіламетраў, і мы з Сашкам з задавальненнем храплі на ўсю машыну.

***Улад БЯРОЗКІН***

Надрукавана ў «Бярозцы»

Подпіс рэдактара

Інтэрактыўны праект, у якім можа прыняць удзел кожная школа краіны

# А раптам яны на тваім баку?!




Мастачка Юлія УСАВА

***Жывая размова ў настаўніцкай, падслуханая карэспандэнтам часопіса «Бярозка» (нават замаскіраваным пад «свайго вучня») і пададзеная на яго старонках «без купюр». Вам цікава? Тады чытайце падслуханае, заўважайце ў размове карыснае, рабіце высновы і — прапаноўвайце «Бярозцы» свае тэмы, а таксама знаёмыя настаўніцкія «пад праслушку».***

— Прыём! База, як чуеш? Адкажы! На сувязі тройчы заслужаны, але ні разочку яшчэ не ўзнагароджаны агент укаранення 008 Дзм. Бондзік. Маю задавальненне знаходзіцца ў настаўніцкай (быццам расклад на заўтра ўдакладняю-перапісваю). Ідзе трэці ўрок другой змены. У настаўніцкай дзве настаўніцы правяраюць сшыткі. Пра нешта перагаворваюцца.

Пра што?

Настройваю падслухвальнае прыстасаванне. Па ходу праслушкі буду ўстаўляць каментарыі. Для поўнага разумення, так бы мовіць. Значыцца… Ёсць кантакт!

***Вольга Віктараўна:*** — Ганна Іванаўна, нешта вы нягегла выглядаецце. Нядобрыцца вам? Ці проста стаміліся?

*Каментарый агента: Трэба ж! Яны адна да адной праз імя і імя па бацьку звяртаюцца. Як у казцы пра згублены час!*

***Ганна Іванаўна:*** — Не тое слова… Вы не ўяўляеце сабе, Вольга Віктараўна, як я намучылася сёння з Каральчуком!

*Каментарый агента: А Каральчук, дарэчы, мой сусед. Вучыцца ў паралельным класе. З характарам хлопец. Як кажуць, круты перац. І што ён сёння выкінуў? Ганна Іванаўна як быццам не шкодлівая настаўніца. Хаця патрабуе строга. Але ж нам на карысць, хто ж гэтага не разумее? Хіба што пяцікласнік які. Слухаем далей…*

**Вольга Віктараўна:** — Чым жа зноў нашкодзіў гэты нясцерпны?

**Ганна Іванаўна:** — Ды ну яго! Уяўляеце, сам папрасіўся адказваць. Сам! Калі такое было? З аднаго боку, зразумела: канец чвэрці хутка. З іншага… тэма надта складаная, а ён два дні прапусціў — на спаборніцтвы ездзіў. Ды і з вуснымі адказамі ў хлопца праблемы. Прапанавала яму зрабіць тэст на камп'ютары. Шанс, так бы мовіць, прадаставіла. А ён упёрся — хачу да дошкі.

*Каментарый агента: Ну, даеш, стары! Па ўласнай волі да дошкі! Я пра цябе лепей думаў.*

**Вольга Віктараўна:** — І што, заваліў?

*Каментарый агента: А хто б не заваліў?*

**Ганна Іванаўна:** — Я не дала заваліць. Але чаго мне гэта каштавала! Ён жа з першых слоў паплыў. А пасля наведзенага пытання «захлёбвацца» пачаў. Аповесць жа да канца не дачытаў! Я яму і так, і гэтак — не ідзе хлопец на кантакт. У класе прыціхлі, сочаць за развіццём падзей. Нехта спачувае. Нехта пагардліва ўсміхаецца. Адразу сталі відаць усе стасункі. Нялёгка майму Каральчуку ў класе.

**Вольга Віктараўна:** — Так, верхаводзіць няпроста. Як і на плаву трымацца.

*Каментарый агента: Спачуваю суседу. Трэба ж так уляпацца! Ды яшчэ па ўласнай ініцыятыве.*

**Ганна Іванаўна:** — Хвілін дзесяць змагаліся. Што ўжо я толькі не рабіла… і рытарычныя пытанні задавала — толькі галавой хітні і бал твой. І рэпрадукцыі ў кніжцы быццам выпадкова адкрывала, для падказкі. І на рэплікі з месца вочы-вушы закрывала.

**Вольга Віктараўна:** — Зрэзаўся?

*Каментарый агента: А хто б не зрэзаўся? Дзесяць хвілін ля дошкі! Жах!*

**Ганна Іванаўна:** — Выплылі. Не магу ж я, педагог з дваццацігадовым стажам, чэмпіёну вобласці дазволіць патануць. Выцягнула! Сем балаў за чвэрць паставіла. З чыстым сумленнем. Але выпакутавала грунтоўна.

*Каментарый агента: Вось ідыёт! Яго цягнулі, а ён… на перапынку байкі ў прыбіральні расказваў. Пра допыты і каверзы беларусічкі. І вер пасля людзям.*

*Званок. Трэба спяшацца. Хаця… трохі яшчэ паслухаю. Якраз матэматыца зайшла. У гэтай якія праблемы?*

**Ірына Вітальеўна:** — Дзяўчыткі, падкажыце, што мне з Іванчыкам рабіць? Кантрольную прапусціў, на тлумачэнні новай тэмы адсутнічаў, на дадатковыя хадзіць не хоча. А яму «пяцёрка» свеціць…

*Каментарый агента: І гэта туды ж! І даўся ім канец чвэрці! Вучні менш на гэту тэму замарочваюцца!*

*Так, людзей дадалося. Ужо кідаюць на мяне касыя позіркі. Час сыходзіць.*

*— Даруйце, дазвольце! Добры дзень! Я тут выключна па справе! Прашу прабачэння… Фффу… Выбраўся з эпіцэнтру, так скажам. Прыём! Дакладваю. Агент Дзм. Бондзік — цэнтру: заданне выканана.*

Аператыўныя высновы. Першая, часам і крутыя перцы трапляюць у бязглуздыя становішчы. Другая, галоўная, часам карысна паспрабаваць зразумець настаўніка. А раптам ён дзейнічае на тваім баку?! З асабістага досведу дадам: і дзейнічае!

Канец сувязі.

***У ролі агента ўкаранення***
***008 Дзм. Бондзіка выступала***
***Лізавета СЦЯЦКО***
***10 клас, СШ № 12, Гродна***

***«Бярозка» чакае новыя матэрыялы ад новых агентаў з усіх школ краіны. Пароль: zaharevichek@mail.ru***

# Чатыры гадзіны ў чарзе за марай



***ДАВЕДКА***

Міла пачала спяваць яшчэ ў дзіцячым садку. «Мне проста захацелася, і мы пайшлі на заняткі па вакале», — кажа сама спявачка. Яшчэ да ўдзелу ў тэлепраэкце спявала на розных конкурсах і гарадскіх канцэртах. Акрамя вакальных здольнасцей у дзяўчынкі заўважаны і танцавальныя: з трох гадоў яна займаецца балетам.

***Мілана Бародка — самая маленькая ўдзельніца тэлеконкурсу «Я спяваю» 2014 года — ужо не такая маленькая. Зараз ёй 8 гадоў, за час, што мінуў з апошняга эфіру, юная спявачка паспела шмат дзе выступіць, стала заўважна больш дарослай і сур'ёзнай — сапраўдная артыстка. Гаворым з ёй і яе мамай Палінай Фідаравай.***

**— Раскажы, як ты трапіла ў тэлепраект.**

***М. Б.:*** — Каб трапіць на адбор, мы прастаялі ў вялікай чарзе чатыры гадзіны. Але гэты час прайшоў амаль незаўважна, бо я пасябравала з дзяўчатамі. Мы бегалі, скакалі, дэфілíравалі па подыуме, пакуль не прыйшоў наш час ісці выступаць. Было вельмі весела і цікава. Потым, калі я была ў садку, маёй маме патэлефанавалі і сказалі, што я прайшла адбор. Мама прыйшла за мной і паведаміла гэту навіну. Я так абрадавалася, што падскоквала ад шчасця! Але мы вырашылі нікому не казаць, што я ўдзельнічаю ў конкурсе, пакуль яго не пачалі паказваць па тэлебачанні. Ведалі пра гэта толькі самыя блізкія людзі.

**— Што было для цябе самым складаным у падрыхтоўцы?**

***М. Б.:*** — Мы вельмі доўга працавалі з англійскай песняй, якую я павінна была спяваць з вядомым спеваком Томасам Нэвергрынам. Вучыць тэкст мне даводзілася без ведання англійскай мовы, таму было вельмі складана, асабліва з вымаўленнем. Затое мне спадабалася вучыць і вымаўляць скорагаворкі з педагогам па вакале і рэпетыраваць з аркестрам.

**— Ці не складана было сумяшчаць удзел у праекце з навучаннем у першым класе?**

***П. Ф.:*** — Было, зразумела, не вельмі проста, але праблем у школе не ўзнікала, да

таго ж, у першым класе не задаюць дамашнія заданні. Мілана вельмі хутка ўсё схоплівае, праводзіць шмат часу над падручнікамі нам не даводзілася ніколі. Я б нават сказала, што творчасць садзейнічае паспяховасці ў школе. Канешне, калі правільна планаваць свой час. Дзякуючы таму, што з ранняга ўзросту Міла вучыць тэктсы песень і сцэнарыяў, у яе вельмі добрая памяць — школьныя вершы, прынамсі, запамінаюцца проста і хутка. Са школьных прадметаў Міла вельмі любіць матэматыку, нават у вольны час просіць мяне скласці ёй прыклады і ўраўненні.

**— Якія падзеі праекта запомніліся больш за ўсё?**

***М. Б.:*** — Такіх падзей шмат. Мне двойчы ўручалі зорачкі. Першы раз я атрымала такую адзнаку за перамогу ў конкурсным дні, калі мы спявалі з Томасам Нэвергрынам песню на англійскай мове. Другую зорачку мне ўручылі таму, што за мяне прагаласавалі тэлегледачы. Гэта адбылося ў гімназіі падчас заняткаў, таму было вельмі нечакана і прыемна. Таксама памятаю момант, калі нам дарылі ноўтбукі. Я спачатку нават не паверыла, што гэта ўсё адбываецца на самай справе. А яшчэ падчас праекта спраўдзілася маё галоўнае жаданне. Мне вельмі падабаецца творчасць украінскай спявачкі Анастасіі Петрык і для мяне зрабілі падарунак: запрасілі Насцю і яе старэйшую сястру Вікторыю, таксама спявачку. Яны выканалі на сцэне дзве песні, а потым за кулісамі раздавалі аўтографы. Пасля я зазірнула да Насці ў грымёрку і мы вельмі доўга размаўлялі. Пра ўсё на свеце!

**— Чым акрамя музыкі ты займаешся і як адпачываеш?**

***М. Б.:*** — Мне падабаецца танцаваць, плаваць, маляваць, марыць, чытаць, глядзець відэакліпы, гуляць з цацкамі, гатаваць ежу і шыць.

***П. Ф.:*** — Кожны год мы возім Мілу адпачываць на мора. Дома ёй падабаецца адпачываць па-рознаму: калі хочацца актыўнага адпачынку, мы катаемся на роліках і каньках, калі хочацца пасіўнага — яна глядзіць тэлевізар або чытае. Часам адпачынак і творчасць супадаюць. Напрыклад, летам Тэнгіз Думбадзэ здымаў тэлеперадачу пра трагедыю ў Беслане, куды павёз і ўдзельнікаў «Я спяваю». Дзеці ацанілі гасціннасць Асеціі, пазнаёміліся з яе прыгажосцю і гісторыяй. Для Мілы гэта было асабліва важна, паколькі яе прадзед асецін, мы знайшлі там сваякоў, сустрэліся з імі. Міла потым сказала мне, што гэта была цудоўная паездка. Восенню ўдзельнікаў «Я спяваю» вазілі ў Латвію, ад гэтай паездкі таксама засталося шмат уражанняў.



**— Што змянілася пасля праекта?**

***М. Б.:*** — Я пачала шмат выступаць... У мяне з'явіліся прыхільнікі, якія робяць прыемныя падарункі і пазнаюць на вуліцы... Па выходных мы з Ванем Касцюкевічам, таксама ўдзельнікам тэлеконкурсу, вядзём рубрыку ў ранішняй перадачы на тэлебачанні... Зараз я выступаю ў дзіцячым ансамблі «Заранак» Нацыянальнага цэнтра музычнага мастацтва імя У. Г. Мулявіна... Нядаўна была вядучай на канцэрце нашага ансамбля...

*Запісала Кацярына ЗАХАРЭВІЧ,*
*фота з архіва спявачкі*

# Завалодай яе ўвагай!

*Только для хлопчыкаў!*



Святлана Сітнік

***Яна табе падабаецца, але ты не ведаеш, як спадабацца ёй. Магчыма, вы нават суседзі па парце, але да гэтай пары не сябры, нават «Вконтакте». Ты ўжо некалі спрабаваў змагацца за яе ганарлівае сэрцайка, але ў цябе не асабліва атрымалася. Тады табе тэрмінова патрэбны самыя сакрэтныя сакрэты хлопцаў, якія, нягледзячы на звычайную знешнасць, карыстаюцца поспехам у дзяўчынак.***

## ПАСПЯХОВЫЯ ХЛОПЦЫ ЦІКАВЫЯ

Цікавасць часам абмяжоўваецца камп'ютарнымі гульнямі, музыкай ці бессэнсоўным перапісваннем «Вконтакте». Не, свет з яго падзеямі ўвогуле такім хлопцам таксама цікавы. А вось яны свету — не заўсёды. Дзяўчынкі ў гэтым вельмі да хлопцаў падобныя: яны таксама хочуць узяць ад свету нешта цікавае. Таму хлопец, які нічога не робіць для таго, каб быць некаму цікавым, а толькі «паглынае» тое, што цікава яму, дзяўчынцы не дужа цікавы. Што робяць паспяховыя хлопцы? Яны працуюць на сябе: развіваюць таленты і здольнасці, удасканальваюць знешнасць і розум. Іграюць на гітары, займаюцца на трэнажорах, гуляюць у шахматы… Яны не толькі глядзяць футбол, але і самі ў яго гуляюць. Яны не «фанацеюць» ад Эмінэма, а самі вучацца чытаць рэп. Не захапляюцца «зоркамі», а самі імкнуцца імі стаць. Карацей, хочаш зацікавіць дзяўчынку — будзь цікавым!

## ПАСПЯХОВЫЯ ХЛОПЦЫ МОГУЦЬ ДАПАМАГЧЫ

Або стварыць такое ўражанне. Якім чынам? Яны развіваюць мужчынскія якасці, амаль недаступныя дзяўчынкам: сілу волі, імкненне да перамогі любой цаной, упэўненасць у сабе. Адкуль гэта бярэцца? У асноўным, праз спорт. Не важна, які — вялікі (баскетбол) ці маленькі (скейтбордынг) — спорт робіць чалавека моцным, хуткім, цярплівым, вынослівым. Ён загартоўвае волю і выхоўвае характар. Такі чалавек заўсёды будзе вылучацца, адрознівацца ад астатніх. Калі сярод тваіх знаёмых ёсць прафесійныя спартсмены, паназірай за імі. Ды проста паглядзі на іх у тэлевізары падчас якой-небудзь канферэнцыі. Убачыш, якія яны ўпэўненыя, як сябе паважаюць. Такія якасці цяжка прыдбаць у іншых, не звязаных са спортам, месцах. Але хіба мы гутарым пра спорт? Не, канешне. Мы размаўляем пра дзяўчынак! Ды толькі сам падумай: у каго болей шанцаў ім падабацца — у хлопца,

які мае і знешнюю (накачаныя цягліцы), і ўнутраную (сіла волі і ўпэўненасць) сілу ці хлопцу, які нічога гэтага не мае? Трэба ўрэшце прызнаць: спорт дапамагае каханню. Дзяўчынкі цягнуцца да моцных хлопцаў, бо адчуваюць, што тыя могуць абараніць іх у любы момант, калі спатрэбіцца. Побач з такімі ім спакойна і ўтульна. А значыць, хочацца быць побач даўжэй.  Хочаш стаць пераможцам у барацьбе за самую прыгожую дзяўчынку — значыць, табе давядзецца перамагчы сябе: свае ляноту, нежаданне ўставаць рана дзеля прабежкі або каб ехаць на другі канец горада дзеля трэніроўкі. Спорт можа стаць табе ў радасць, калі выбраць з яго відаў той, што найбольш падабаецца.

## ПАСПЯХОВЫЯ ХЛОПЦЫ ЎМЕЮЦЬ НАЛАДЖВАЦЬ СТАСУНКІ

Вядома, размова тут не пра стасункі ў інтэрнэце, якія складаюцца з стандартных і нудотных «прывітанне», «як справы?», «што робіш?», «што задавалі па матэматыцы?», «дзякуй», «пакуль». Пакінь такія стасункі першакласнікам, якія толькі што вывучылі алфавіт і з цікаўнасці націскаюць на клыпажкі. Гэта — іх узровень, але не твой, калі ты хочаш уразіць дзяўчынку. Стасункам важна і варта вучыцца — гэта спатрэбіцца ў жыцці наогул. Многія падлеткі думаюць, што гэта не так важна — лёгка, упэўнена і цікава размаўляць. Маўляў, гавару як гавару — і добра. Але калі справа дойдзе да знаёмства ці першага спаткання, тут яны б аддалі за тыя ўменні ўсё на свеце, ды позна: яна спяшаецца дадому, бо ёй сумна. Знаёмства і спатканне — гэта ў першую чаргу дыялог, размова. І ад таго, як размаўляе хлопец (смела і спакойна ці сарамліва, разгублена, двух слоў звязаць не можа), залежыць лёс дыялогу: ці будзе ў яго працяг, ці адбудзецца новая сустрэча, спатканне? Ад таго, пра што гаворыць хлопец (пра нешта цікавае, сапраўды захапляльнае ці проста вярзе лухту), залежаць яго стасункі



з дзяўчынкай: захоча яна яго яшчэ раз паслухаць ці знойдзе сабе цікавейшы занятак? Ад таго, як гаворыць хлопец (выказвае думкі сказамі ці простымі выразамі кшталту «было весела», «усё нішцяк»), залежыць, якое ўражанне ён створыць.

Цяжка ў вучобе — лёгка ў баі, як казаў Сувораў. Вучыся гаварыць з сябрамі не жэстамі, а моўным апаратам, з бацькамі і роднымі — цэлымі аповедамі пра нешта харошае, на уроках з настаўнікамі — без страху. Прагаворвай параграфы дома, расказвай сямейнікам вершы — твая задача навучыцца гаварыць без прымусу і з уключанай логікай, нязмушана, каб не спасаваць у важны момант, а наадварот — паказаць сябе.

Значыцца, цяпер ты ведаеш сакрэты звычайных хлопцаў, якія ўмеюць падабацца дзяўчынкам і заваёўваць іх сэрцы. І калі ты хочаш стаць такім, як яны, — рабі тое, што робяць яны. Поспехаў!

Даследчыкі аднаго амерыканскага ўніверсітэта прыйшлі да высновы, што працэс запамінання ідзе значна эфектыўней, калі чалавек ляжыць. Прычына — прыліў крыві да мозга. Калі вам трэба вывучыць штосьці на памяць, прымайце гарызантальнае становішча!.. Толькі пастарайцеся не заснуць.

*Непрыдуманыя гісторыі*

# Пра каханне

Ведаеце, якое свята ў школе галоўнае? Ну канешне! 14 лютага. З году ў год гэты дзень лічыцца адной з найважнейшых падзей у асабістым жыцці школьніка. Асабліва школьніцы. Калі яшчэ трынаццацігадовай дзяўчынцы прызнаюцца ў каханні на вачах усіх? НІ-КО-ЛІ!

Таму што нармальнаму трынаццацігадоваму хлопцу не прыйдзе ў галаву так прынізіцца. Ды яшчэ прылюдна. Ужо лепей партфелем па спіне. Ды што там трынаццацігадовыя. Бяры вышэй — чатырнаццаць, пятнаццаць. Ходзяць такія незалежныя і таямнічыя. Недасяжныя і раўнадушныя. І пляваць яны хацелі на нечыя рамантычныя сны, нясмелыя мары і іншую дзявочую лухту. Кахання ў прыродзе не існуе. Яго прыдумалі такія вось…

Анечка не зрабілася выключэннем. Хоць і спадзявацца асабліва не было на што. Звычайная. Бляклыя коскі за вушамі, нос качачкай, рот дужачкай. Усё болей перавернутай, бо весяліцца няма з чаго.

Але Дзень Святога Валянціна не падманеш. Хочацца хоць якога, хоць непатрэбнага каму іншаму, але цуду. Няхай сабе маленечкай «валянцінкі» з кароценькім «Анечцы ад…». І цэлага дня хваляванняў і прадчуванняў: а далей што?

І няхай не здаралася на трынаццацігадовым жыццёвым шляху Анечкі ніякіх «далей». Пакуль не здаралася. Але надыходзіў яшчэ адзін Дзень, і…

На гэта раз Анечка рашылася на крайнія меры. Скарысталася мамінай касметыкай. Зусім трошкі — не дай Бог класная заўважыць. Пасля мама даведаецца. Пасля… Бр-р-р…

Кропелька тушы і бляску для вуснаў здаліся Анечцы подзвігам адважнага разведчыка ў тыле ворага.

За макіяжам надышла чарга прычоскі. Бляклыя коскі былі распушчаны і ўзбіты перламутравым мусам, пазычаным у суседкі. У люстэрку дзяўчынку сустрэла ўсхваляваная незнаёмка.

— Можна хаця б на адну «вадлянцінку» спадзявацца? — баязліва запыталася ў незнаёмкі Анечка.

— Не пытанне, — падміргнула незнаёмка. — Пасьпяшайся, пакуль не разабралі…

Анечка неслася ў школу на крылах надзеі. У дзвярах сутыкнулася з Алікам. Ціхенька войкнула. Адскочыла назад. Пачырванела.

Алік лічыўся самым прыгожым хлопчыкам сёмай паралелі. Скрыпач і плывец з першым юнацкім разрадам — мара ўсіх дзяўчынак другой змены.

«Вось бы…» — успыхнула і, спужаўшыся ўласнай смеласці, адразу ж згасла іскрынка-думка. Яшчэ чаго — дзе ты і дзе Алік?!

— Пятроўская? — прыжмурыў вочы ідэал.

— Ага, — піскнула Анечка, уціскаючыся ў сцяну.

Сімпатыяй да Аліка, між іншым, не так даўно ўспыхнула лепшая сяброўка Соня. Не хапала яшчэ… Дадумаць Анечка не паспела.

— Трымай! — Алік усунуў ёй у руку вялізнае глянцавае сэрца.

І выскачыў на ганак. Анечка пахаладзела. Памылка? Ці…

— Лёс…

Ногі самі вынеслі яе на вуліцу. Дрыжачыя пальцы з цяжкасцю развязалі бант на паштоўцы. Вочы прачыталі кароткае: «Табе ад мяне. Назаўсёды разам! А.»

Недзе ў мінулым жыцці празвінеў званок. Міма пранеслася тры дзясяткі спозненых на ўрок. Забразгалі дзверы. Заціхлі галасы.

— Што рабіць? Што рабіць? Што ра…

Яна не зразумела, як апынулася дома.

На дыбачках прайшла да сябе ў пакой. Скруцілася крандзяльком, схавалася пад коўдрай. Што рабіць?

— І як мне жыць цяпер? Напляваць на Соню? Адправіць сустрэчную «валянцінку»? Ператварыць усё ў жарт? Ці згубіць галаву?

Пад вухам зазвінела. Анечка зірнула на экран. Соня…

***Каментарыі***

***Сімпатулька:***

— Між намі: макіяж — зброя масавага знішчэння. Заўваж, ты толькі ўвайшла, а хлопец ужо зацаніў. Пагадзіся, без тушы і бляску шанцы былі б нулявымі. Рукі ў ногі і да люстэрка! Дубль два: тры хвіліны — і наперад! Не забудзь па дарозе набыць «валянцінку». Нешта забаўнае: тыпу «мне прыемна» і не болей. Не спяшайся, цяпер ён нідзе не дзенецца. Так, ты ж забылася на сяброўку! Хаця… дзяўчынак вакол шмат, а плыўцы і скрыпачы ў нашы сеткі трапляюць рэдка. Удачы, мышка! Не бойся быць жар-птушкай!

***Першакласнік з яблыкам:***

— Падумаеш, каханне! Ды я яшчэ ў дзіцячым садку з гэтым завязаў. Мы сваім дзяўчынкам таксама «валянцінкі» дорым. І ніхто не пакутуе. Я асабіста чатыры падарыў. Проста так, нічога асабістага. Не факт, што гэты Алік далёка адышоў. Не бяры да галавы, сябруй са сваёй Соняй далей. Яблык хачаш?

***Прасунуты старшакласнік:***

— Вызначся, сяброўка! А яшчэ лепей — знайдзі ў сабе моц. Ну, падарыў хлопец паштоўку. Думаеш, табе? Не абавязкова. Магчыма, памыліўся. Або расчараваўся ў аб'екце сваіх пачуццяў. Ці не ведаў, куды гэта глупства падзець. Бо, слухай, а раптам яму гэту «валянцінку» самому падарылі? Там жа канкрэтна не напісана, каму і ад каго. Але вернемся да прыярытэтаў. Хто табе даражэй? Лепшая, праверaная часам і жыццём сяброўка ці пабочны прыгажун, няхай сабе спартовец і музыка? Здаецца мне, што не ўсё тут проста. Не спяшайся рабіць высновы. Сачы за падзеямі, назіраючы збоку.

***Вопытны псіхолаг:***

— Між іншым, дзявочая дружба ў школьныя гады церпіць менш трансфармацый, чым закаханасць. Апошняя бывае шматаблічнай: Сашу ты любіш за разумныя адказы ля дошкі, Віцю — за спартыўныя дасягненні, а Сяргея — за прыгожыя вочы і бровы. Не спяшайся ставіць кропкі над ненапісанымі «і». Гэты жэст добрай волі мог быць выкліканы мноствам не звязаных з каханнем прычын. Ды ты сама яшчэ нядаўна дазваляла сяброўцы любіць гэтага Аліка. І гэта не перашкаджала жыць. Ні рэўнасці не было, ні трывогі. Дык што змянілася? Папяровае сэрца адносіцца да катэгорыі цудаў у выключных выпадках. Пакінь усё як ёсць, адкажы на званок сяброўкі. Спашліся на тое, што табе нядобрыцца. І пачакай. Жыццё само падкажа новы ход.

***Бабуля з пруткамі:***

— Ох, дзеткі! Паперка бліскучая, але ж папера. Вось калі б ён букет бэзу пасярод зімы падарыў! І трэба быць сціплай. А то распусціла косы. Добры хлопец цябе і без маскараду заўважыць. Сваё шчасце міма не пройдзе. Так што сядзі і чытай разумныя кніжкі.

***Падкажы Анечцы, што ёй цяпер рабіць. Пішы на bjarozka@mail.ru.***

# Ліст да расійскага сябра



Прывітанне, дарагі расійскі дружа!

Наш ліст да цябе накіроўваецца з вёскі Баравое Мінскай вобласці. Хутчэй за ўсё, ты нават не падазраеш пра наша існаванне. Але павер, мы існуем. І гісторыя нашага краю багатая і самабытная. Дазволь пра яе расказаць.

Першы ўспамін пра Баравое датуецца 1590 годам. Ты лёгка можаш падлічыць, што ў 2010-м бараўчане адзначылі 420-годдзе сваёй вёскі. Пад'язджаючы да яе, на ўскрайку бачым сапраўдны сімвал нашых мясцін, які робіць іх знакамітымі на ўсю рэспубліку, — капліцу-пахавальню шляхецкага роду Дыбоўскіх. Праўда, так у нашай вёсцы яе ніхто не называе: кажуць проста — «капліца». Адзін са знакамітых прадстаўнікоў гэтага роду Бенедыкт Іванавіч Дыбоўскі — актыўны ўдзельнік паўстання 1863 года, вядомы навуковец-біёлаг, акадэмік. Цяпер капліца разрабавана і да нядаўняга часу была ў занядбанні. Але гэтым летам знайшліся людзі, якім баліць лёс гістарычнай мясціны, — і зараз на гары з капліцай вядзецца актыўная ўзнаўленчая праца, нават усталяваны помнік святару Рудзіцкай царквы Квяткоўскаму Уладзіміру Елісеевічу. Грошы на рэканструкцыю збіралі ўсёй вёскай. Калісьці на гэтай гары стаяла драўляная царква, але яе спалілі ў мінулым стагоддзі.

Едзем далей. Вось мы на вуліцы Баравая. Ты, канешне, заўважыў сугучча паміж назвамі вёскі і вуліцы. Уся справа ў тым, што вуліца гэта, паўночная, з'яўляецца гістарычна самай першай. Насельніцтва складаюць карэнныя жыхары паважанага ўзросту, а таксама іх нашчадкі, большасць з якіх жыве ў Мінску і прыязджае ў вёску адпачыць. На вуліцы Баравая размешчана 108 участкаў.

Маладзёжная і Цэнтральная — дзве вуліцы, падобныя адна да адной. Тут жыве асноўны працоўны патэнцыял аграгарадка Баравое: сем'і спецыялістаў гаспадаркі «Баравое-2003». Многія жыхары з'яўляюцца перасяленцамі не толькі з іншых вёсак і нават гарадоў нашай краіны, але і з іншых рэспублік, напрыклад, з Казахстана, Расіі, Украіны. Тут ёсць дзіцячы садок, школа і стадыён, дзе па вечарах збіраецца моладзь — гуляць у футбол. На стыку гэтых вуліц знаходзіцца цэнтр.

Але гэта яшчэ не ўсё. Хадзем далей. Не адставай.



Я вучуся ў мясцовай школе. Яе гісторыя не менш цікавая, чым гісторыя самой вёскі. Пачатковая школа тут была адкрыта ў далёкім 1865 годзе і размяшчалася ў наёмным будынку. У 1894 годзе ў школе вучыліся ўсяго толькі 42 вучні: 38 хлапчукоў і 4 дзяўчынкі. А ў 1897 годзе царквою і мясцовым панам быў узведзены першы стацыянарны будынак школы.

Баравое — гэта даволі сучасны населены пункт: ёсць тут двухпавярховая крама з каралеўскім нават для горада асартыментам тавараў, веласіпеднай паркоўкай на чатыры месцы і акенцам для позняга гандлю. У цэнтры вёскі месціцца таксама пажарная станцыя, клуб, пошта, сельсавет, сталоўка, трохі далей — амбулаторыя.

Цэнтральную плошчу вянчае абеліск у гонар удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Кожную вясну жыхары вёскі збіраюцца тут, каб успомніць землякоў, што загінулі за родны край.

Што ж табе яшчэ расказаць?.. А, вось! Ёсць у нашым сквэрыку манумент з капсулай, усталяваны ў 1922 годзе. На ім напісана, што капсулу трэба ўскрыць праз сто гадоў, у 2022-м. Дык чакаю цябе, мой дружа, прыязджай і раздзялі з намі нашы радасць і гонар. А калі раптам не атрымаецца ў цябе прыехаць, то, мяркую, ты пачуеш яшчэ пра нас, далёкіх ад цябе жыхароў вёскі Баравое Мінскай вобласці.

***Дар'я КУЧУК,***
***8 клас, Бараўская СШ, Дзяржынскі раён***
***Кіраўнік — настаўніца рускай мовы і літаратуры Т.А. Баранава***

# І гучала над калыскай...

Гліняны посуд, стагадовы абрус... Вышываныя падушкі на драўляным ложку. Вязанка лёну ў куце. У музейным пакоі Сапоцкінскай сярэдняй школы пануюць цішыня і незвычайныя рэчы, назвы якіх ведае сёння далёка не кожны. Кросны, капыл, цэп, куфар... У кожнай рэчы — таямнічая гісторыя.



Злева ля сцяны вісіць калыска. Як з'явілася яна ў музеі, ніхто не памятае. Хто той майстар, чые рукі перапляталі шэрагі лазы, невядома. А калі ўслухацца ў цішыню, мож-

на пачуць далікатныя, ласкавыя гукі калыханак, якія гучалі над калыскай з пакалення ў пакаленне. Гэтыя песні напоўнены і мацярынскай любоўю, і заўсёднай трывогай, і цяжарам працы, і пахам свежага хлеба, і пяшчотным клопатам пра будучыню малога. А колькі ў кожнай калыханцы дзіўных герояў, надзеленых уменнямі гаварыць, лётаць, забаўляць! Зрэшты, у кожнай мясцовасці свае калыханкі, якія адлюстроўваюць каларыт, моўныя асаблівасці, заняткі, менталітэт і лад жыцця, думкі і спадзяванні, жыццё простага чалавека.

Селі куры на вароты,
Сталі сакатаці.
Няма чаго ім даці:
Ні пшаніцы рукавіцы,
Ні ячменю жменю.
Адляціце куры вон,
Дайце спаць дзіцяці!

Нярэдка адна і тая ж калыханка перажывала змены, нешта дадавалася — і з’яўлялася новая песня.

Люлі, люлі, люлі.
Прыляцелі куры.
Селі на вароты
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці.
Няма чаго ім даці.
Ці гароху троху.
Ці аўса з каласа,
Ці пшаніцы з пудаўніцы.
Люлі, люлі, люлі.
Засыпайце, мае дзятулі.
Люлі, люлі, люлі,

Улюбёным героем калыханак стаў кот — мяккі, пухнаты, клапатлівы і смешны. Дураслівец-кот ведае, як забавіць дзіця, умее супакоіць сваім вуркатаннем, непрыкметна пазіраючы прыадчыненым вокам.

Люлі, люлі, люлі,
Палез кот на дулі.
З дуляў на палаткі,
Памарозіў лапкі.
Чаго, каток, хочаш?
Ці піць-есці просіш?
Я піць-есці не прашу,
Я Марынку калышу.
Калышы, калышы,
Купім табе боты,
За чатыры злотых.
Будзеш у ботах пахаджаць,
І Марынку калыхаць.
Парвеш адныя —
купім табе другія.
А парвеш другія,
Купім табе трэція.
Люлі, люлі, люлі.

Павольна калышацца старадаўняя калыска, песцячы немаўля ўтульнасцю і цяплом. А яно, зусім маленькае, яшчэ не ведае слоў, а толькі ўлоўлівае меладычнасць і інтанацыю мамінага голасу — і разумее: яго любяць, мама побач і ўсё добра. А словы ўваходзяць у яго свядомасць, і праз некаторы час ён будзе разумець, дзе ў ката хвосцік і ці носяць куры чырвоныя боты…

Ціха ў школьным музеі пасля ўрокаў. Толькі старая калыска нячутна спявае песні. Усе яны з дзяцінства — цёплага, утульнага, бесклапотнага. Прыходзьце іх паслухаць.

***Алена КАСЦЮШКА,***
***кіраўнік краязнаўчага гуртка «Нашчадкі»***
***Сапоцкінская сярэдняя школа,***
***Гродзенскі раён***

Чаму ад рыпення дзвярэй альбо шкрабання жалезам па шклу «прадзірае па скуры»? Аказваецца, што гэтыя гукі падобныя да крыкаў малпаў, якія папярэджваюць аб небяспецы. Як бачыце, паводзіны чалавека ў многім вызначаюцца інстынктамі, што засталіся ад продкаў.

***Увага, конкурс!***

***У кожным беларускім кутку існуюць свае легенды і паданні: пра назвы гарадкоў і вёсак, рэчак і азёр, пра тое, адкуль узяўся ля дарогі за ваколіцай вялізны валун, пра... Ды шмат пра што. І вельмі добра, што гэтымі легендамі цікавяцца не толькі вучоныя-этнографы, але і юныя іх калегі — чытачы «Бярозкі». Не проста цікавяцца, а нават запісваюць і дасылаюць у рэдакцыю. Таму мы вырашылі распачаць конкурс: запрашаем дасылаць у «Бярозку» мясцовыя легенды. Менавіта мясцовыя, а не агульнабеларускія. Чакаем вашых лістоў (папяровых ці электронных), а пакуль рыхтуем прызы і прапануем першыя легенды.***

## ПРА ГЕРБ ГОРАДА ПРУЖАНЫ

Даўным-даўно нашым горадам валодала польская каралева Бона Сфорца. Аднаго разу паехала яна па сваіх уладаннях і сыночка з сабой узяла. Пад’ехалі яны да рэчкі Мухавец. Раптам з’явіліся нейкія дзіўныя мухі, чорныя і вялізныя. Каралева такіх ніколі раней не бачыла, таму вельмі здзівілася.

Мясцовыя жыхары расказалі ёй, што ў іх рацэ жыве Змей, які спачатку напускае на людзей мух, а потым і сам распраўляецца з імі. Але каралева Бона не вельмі ім паверыла і загадала працягваць шлях.

Сын Боны ехаў з нянькай у карэце наперадзе. І як толькі карэта ўз’ехала на мост, то ён, стары ўжо, пачаў трашчаць, а потым нечакана нахіліўся — і карэта з хлопчыкам апынулася ў вадзе.

І адразу ж каля карэты з’явіўся Змей, які, ухапіў сына каралевы, ды знік.

Каралеву апанавала гора. Каб знайсці цельца сына, яна загадала насыпаць запруду на рацэ і адвесці ваду ўбок. Калі вада спала, усе ўбачылі на дне ракі маленькае цельца каралевіча. А Змей тым часам сам захацеў стаць каралём, начапіў на сябе карону і пачаў правіць мясцовасцю. Яго, канешне, баяліся, але знайшліся смелыя людзі і перамаглі Змея.

Пасля каралева Бона загадала пабудаваць на гэтым месцы горад і назвала яго Пруджаны, — ад таго, што на рацэ непадалёку зрабілі запруду. Прайшоў час — і назву горада змянілі на Пружаны, а каралева падарыла гэтаму гораду герб. На ім — выява ракі ў выглядзе блакітнай вужакі з каронай на галаве, а галава тая паглынае дзіця.



Такую вось легенду расказваюць старыя людзі пра асноўны сімвал горада Пружаны.

***Ангеліна МАКАРЭВІЧ,***
***7 клас, Пружанская гімназія***



## ПРА КНЯЗЬ-КАМЕНЬ

На паўдарозе ад Пружан да Новых Засімавічаў ляжыць вялікі камень. Даўным-даўно, як распавядаюць старыя людзі, у гэтым месцы сустрэліся жабрак з князем. І стаў жабрак прасіць у князя дапамогі, бо жыў ён вельмі бедна і быў вельмі галодны. Але багаты князь адмовіў яму — нічога не даў.

— А каб ты скамянеў, скупы князь! — усклікнуў жабрак.

І толькі ён так сказаў — як князь умомант скамянеў.

Мінула шмат гадоў. Людзі паспелі забыцца пра жахлівае здарэнне. А камень той ляжыць, як напамін, што сустракаюцца бедныя людзі, што трэба быць міласэрнымі і рабіць на зямлі дабро.

***Віталь МАКАРЭВІЧ,***
***выпускнік Пружанскай гімназіі***

## ПРА ВЁСКУ МІЛЕЙКІ

Калісьці вельмі даўно жылі хлопец і дзяўчына. Бацькі абодвух былі людзьмі заможнымі. Дзяўчыну звалі Марына, а хлопца — Васіль. Спаткаўшыся аднойчы ў вялікай вёсцы на кірмашы, яны пакахалі адно аднаго з першага погляду.

У хуткім часе да Марыны прыехалі сваты Васіля. Увосень згулялі вяселле. А потым бацькі маладых вырашылі збудаваць для іх дом. Для гэтага выбралі найпрыгажэйшае месца на пагорку і пачалі вырашаць, якую назву даць гэтаму месцу.

Сваю прапанову ўнеслі маладыя. Марына і Васіль абвясцілі, што паколькі для іх тут усё вельмі міла, то месца гэтае яны назавуць Мілейкі.

Праз некаторы час пачалі будавацца побач іншыя людзі. Колькі гадоў з тае пары прайшло, не ведаюць і самыя старыя людзі нашай вёскі, але заўсёды ў ёй жылі толькі добрыя, а гэта значыць, мілыя людзі.

***Ігар ДАБРЫНІН,***
***9 клас, Чапукоўская СШ, Міёрскі раён***

***Мастачка Вольга ХАТКОЎСКАЯ***





## ЗАЗНАЙКА

***Па матывах кубінскага народнага фальклору***

Дзяўчына адна ў горнай вёсцы жыла.
З сям'і самай беднай красуня была,
Але ад зазнайства
Перад усімі
Трымалася, як маладая гусыня.
На ўсіх паглядала
Заўжды ганарліва,
А людзі шапталіся:
— Нейкае дзіва!
А людзі смяяліся:
— Скуль гэта пыха?
Ой, будзе ёй, зведае ліханька-ліха!
Глядзіце, як дзеўка
Задрала свой нос,
Таго і чакай —
Ім дапне да нябёс!

А дзесьці ў Гаване сваячка жыла.
Аднойчы адтуль тэлеграма прыйшла.

У целе дарослага чалавека прыкладна сто трыльёнаў клетак. Але толькі дзясятая частка з іх — чалавечыя, астатнія — мікробы. У роце чалавека мікробаў больш, чым людзей на планеце. Праўда, калі пачысціць зубы, то колькасць мікробаў зменшаецца ў разы.

«Прыедзь, пагасцюй», —
Запрашала сваячка.
Паехала ў горад дзяўчына-бядначка.
Паехала ў горад
Матулі на страх:
Пабыць жа ў сталіцы —
Не дома ў гарах!

Вярнулася ў вёску з гасцёўя дзяўчына.
Апранута модна —
Пазнаць немагчыма.
Уся ў завітках,
У каралях, бразготках.
Змянілася ў модніцы нават паходка.
А нос задзірае
Вышэй, чым раней,
Дзяўчат павучае:
— Хадзіце раўней!
Як я, у Гаване пажывяце —
Навучыцеся разбірацца ў ядзе.
Як я, пазаймайцеся фізкультурай —
Не будзе праблемы
З прывабнай фігурай!
Сяброўкі ўсміхаюцца:
Што ёй сказаць?
Ці ж можна за месяц гаванкаю стаць?

Ім цяжка зазнайку было зразумець,
Яна ж не збіралася паразумнець.
А ўбачыла неяк мачэтэ й пытае:
— Што гэта за рэч?
Я такое не знаю!
Вяскоўцы ў здзіўленні:
— Дзівачка, дальбог!
Не ведаеш, чым сячэ бацька трыснёг?
Няўжо ты забыла мачэтэ, паненка,
Бы з'ехала з вёскі ў Гавану даўненька?

Дзяўчына ж на кепікі не азіраецца —
Усё гарадской паказацца стараецца.
Ля плуга спынілася,
Пальчыкам ткнула:
— Што гэта за рэч?
Пра такую не чула!
Вяскоўцы тлумачаць,
Вяскоўцы злуюць:

Чалавек важыць у 20—30 разоў больш, чым кошка. І калі шпульнуць у кошку пантофляй, гэта будзе амаль тое ж самае, што ў чалавека запусціць табурэтам.

— Ды плуг гэта, плуг,
Ім зямельку аруць!

Пасля каля коз, ля кароў пахадзіла
І выгляд рабіла,
Што ўсё ёй — за дзіва,
Нібыта ніколі не ведала іх,
Не бачыла дома,
У суседзяў сваіх.

Убачыла граблі — і зноў не стрымалася:
— Што гэта за рэч? —
Як раней запыталася.
Сама ж наступіла на зубы грабель,
А граблі ёй — плясь
З усёй сілы па лбе!

— Ах, граблі праклятыя!
Каб вы згарэлі!
Як буду хадзіць з сінякамі на целе?
Прызнайцеся, хто з вас з-за жартаў і кпінаў
Забыўся іх тут,
Мне пад ногі падкінуў? —
Дзяўчына ўскіпела,
А потым — у слёзы.
І нос апусціўся, пакінуў нябёсы.
Смяяліся людзі,
Смех чуўся навокал:
— То ж гонар празмерны
Выходзіць ёй бокам!

Закапалі слёзы з вачэй у дзяўчыны.
Не людзі, дык граблі яе правучылі.

Хоць смех разбіраў,
Спачувалі ёй людзі…
А гэта здарэнне —
Навукаю будзе?

***Мікола ЧАРНЯЎСКІ***

Кожны валасок нашага цела мае мышцу, якая можа скарачацца і прыўзнімаць волас. А адбываецца гэта на холадзе (вось вам і, так званая, «гусіная скура», альбо пры моцным спалоху ці гневе (нездарма ж пра такі стан кажуць: «валасы дыбам усталі»)

***Мікола Чарняўскі — самы галоўны «бярозкавец»! Гэты дзіцячы паэт працаваў рэдактарам нашага часопіса ажно 22 гады — з 1966-га да 1988-га. Лічыць, што «Бярозка» глядзіць у свет вачыма надрукаваных радкоў.***

# Глобус Еўропы



Мастачка Аляксандра ДЗЕЖЫЦ

— Ці ёсць у вас глобус Еўропы? — запытаў хлопчык у прадаўца.

Хлопчык быў маленькі і канапаты, а прадавец — вялікі і барадаты.

— Не, хлопчык. Няма. Учора прадаў апошні, а новую партыю яшчэ не прывезлі.

— Шкада, — расчаравана прамовіў хлопчык і скіраваўся да выхада.

— Пачакай, хлопчык! — паклікаў прадавец. — Нашто табе Еўропа? Яна такая мізэрная! Вазьмі лепш Ганімед.

Мужчына зняў з паліцы глобус Ганімеда і ўключыў яго ў сетку. Глобус, падсвечаны знутры, закруціўся вакол сваёй восі, і з яго загучала модная песенька.

— Вось, паглядзі: і глобус, і лямпа, і радыёпрыёмнік — тры ў адным! І сам Ганімед — не тое, што Еўропа, ён вялікі і жалезны, сапраўдны мужчына! Ты ж хочаш вырасці сапраўдным мужчынам?

Хлопчык кіўнуў.

— Тады Ганімед — тое, што табе трэба! А ведаеш, хто такі Ганімед? О, я раскажу табе! Гэта быў сын траянскага цара Троса! Царэвіч, вось хто! І сам Юпітэр, ператварыўшыся ў арла, знёс яго на спіне ў свае нябесныя апартаменты, да багоў. Ну як? Бярэш?

— Не, — сказаў хлопчык. — Мне патрэбна Еўропа.

Прадавец паставіў Ганімед на прылавак і зняў з паліцы яшчэ адзін глобус — жоўта-залаты, пакрыты кратарамі.

— Можа, табе спадабаецца Ія? Яна ўся жоўтая, таму што на ёй многа серы. Толькі зірні, якая яна гарачая, колькі тут вулканаў! На ёй можна гатаваць ежу!

Прадавец уключыў глобус, і той пачаў разаграваацца, як электрычная плітка.

— Ія была жрыцай багіні Геры, такой прыгожай, што ў яе закахаўся Юпітэр. Ставіш рашотку, зверху — рондалік, і варыш што табе хочацца! Асцярожна, не апячы пальцы. Ну што, запакоўваць?

— Не. Я хачу Еўропу, — сказаў хлопчык.

— Які ўпёрты. Навошта яна табе? — пацікавіўся прадавец, хаваючы Ганімеда з Іяй пад прылавак.

— У мяне там бацька жыве. І я хачу паляцець да яго. Шкада, што ў вас няма Еўропы.

Ён выцер нос рукавом і выйшаў з астранамічнай крамы.

Сёння ў хлопчыка быў восьмы дзень нараджэння. Восем гадоў хлопчык жыў без бацькі. І калі ён пытаўся ў маці, дзе ягоны тата, жанчына адказвала: «Ён жыве на Еўропе».

Еўропа, адзін з Галілеевых спадарожнікаў Юпітэра, лётала вакол газавага гіганта за шэсцьсот мільёнаў кіламетраў ад Зямлі. Вядома, што пераадолець такую адлегласць для чалавека было няпроста, але хлопчык не адчайваўся: ён цвёрда вырашыў, што калі вырасце, то адправіцца на Еўропу на касмалёце, пагрукае ў дзверы татавага дома і абдыме яго.

Сёння раніцай мама ўручыла хлопчыку канверт і сказала:

— З днём нараджэння, зайчык. Ты ўжо зусім дарослы, таму — вось табе грошы. Можаш пайсці і купіць на іх тое, што захочаш.

І хлопчык накіраваўся ў астранамічную краму ў надзеі, што набудзе глобус Еўропы, прынясе яго дадому і маці пакажа яму месца на спадарожніку, дзе стаіць дом бацькі.

Выйшаў хлопчык з крамы і разгубіўся. Ён не ведаў, дзе яшчэ прадаюцца глобусы. І пакуль ён перамінался з нагі на нагу, на грошы ў яго руках знайшліся ахвотнікі. Падлеткі, якія трымалі ў страху ўвесь раён, адрэзалі шляхі да адступлення, камандзір шайкі па мянушцы Выдзер загасіў недакурак аб падэшву свайго стаптанага чаравіка.

— Гэй, ты! — сказаў ён.

— Я? — хлопчык азірнуўся, падумаўшы, што той звяртаецца не да яго.

— Ты-ты! — кіўнуў Выдзер. — Што гэта ў цябе? О-о, грошы! А нашто табе аднаму столькі грошай? Хіба ты не ведаеш, што трэба дзяліцца? Ты, чысценькі і сыценькі, давай сюды свае грошыкі, а то я табе валасы выдзеру.

— Не дам, — сказаў хлопчык і прыціснуў грошы да грудзей.

— Што ты сказаў? Вы чулі, што ён сказаў? — Выдзер зарагатаў, і разам з ім зарагаталі астатнія падлеткі. — Аддавай па-добраму, калі хочаш застацца цэлым.

Хлопчык азірнуўся. Міма праходзілі людзі, але ўсе рабілі выгляд, што не адбываецца нічога асаблівага: ніхто не хацеў звязвацца з Выдзерам і ягонай кампашкай.

Калі падлеткі зніклі з грашыма, з астранамічнай крамы выбег прадавец.

— Хлопчык, ты як? Вось бандзюкі! — пагразіў мужчына у бок нябачнай банды Выдзера.

Хлопчык усхліпнуў.

— Табе баліць? — спытаўся прадавец.

— Не. Ужо не баліць. Ён нямоцна ўдарыў.

— Тады чаму ты румзаеш? Ты можаш сабой ганарыцца: уся вуліца баіцца Выдзера. Яны мне ўжо тройчы білі вітрыны за тое, што я заступаўся за іх ахвяр. Ты адзіны, хто адважыўся ўвязацца з імі ў бойку. Ты вельмі смелы!

Але хлопчык пачаў церці вочы.

— Я не магу, — сказаў ён, — вярнуцца дадому без грошай і без падарунка. Што я скажу маме?

— А што, сёння нейкае свята? — пацікавіўся прадавец і сеў побач з хлопчыкам.

— У мяне дзень нараджэння, — адказаў той і расплакаўся.

Прадавец крыху падумаў, а потым сказаў:

— Глобуса, які табе трэба, у мяне няма, а грошы проста так я табе не дам. Але ў мяне ёсць ідэя.

Прадавец устаў і пайшоў у сваю краму, а калі вярнуўся, то ў яго руках было вядро. Ён працягнуў вядро хлопчыку.

— Трымай. Я табе яго дару. На дзень нараджэння. Можаш мне паверыць: з любой рэчы, калі яе правільна выкарыстаць, можна азалаціцца. Калі ты ўздзенеш гэта вядро на галаву або сядзеш у яго — карысці будзе мала. А калі набярэш у яго вады і вымыеш вітрыны ў маёй краме, я з табою добра разлічуся. Згодны?

— Згодны, — усхліпнуў хлопчык, а ўсхліпнуўшы дадаў: — Падарыце мне, калі ласка, яшчэ якую-небудзь анучку.

Прадавец не падмануў: ён разлічыўся з хлопчыкам за вымытыя вітрыны. Канешне, гэтых грошай не хапіла б на глобус, не хапіла б нават на ножку ад глобуса, але гэта была адпаведная плата за працу.

Калі хлопчык выліў ваду з вядра пад вулічную рашотку, прадавец выйшаў на прыступкі крамы, паглядзеў на неба і задумліва сказаў:

— Ноччу ішоў дождж. Аўтамабілі ездзяць па лужынах… дужа брудныя!

Хлопчык зірнуў на дарогу. Ён убачыў мноства машын аднолькавага брудна-шэрага колеру, якія, абганяючы адна адну,

дымілі выхлапнымі газамі ды запырсквалі пешаходаў. Хлопчык набраў з калонкі ў вядро чыстай вады і адправіўся на бліжэйшую паркоўку каля гандлёвага цэнтра. Паркоўка была шчыльна застаўлена аўтамабілямі, а ў іх сядзелі мужчыны ды цярпліва чакалі, пакуль іх жанкі стомяцца гуляць па пяціпавярховай краме і вернуцца з пакупкамі.

Хлопчык падышоў да самага крайняга аўтамабіля, дастаў з вядра анучку і паглядзеў на мужчыну, які сядзеў за рулём і чытаў навіны ў інтэрнэце. Мужчына адарваў позірк ад экрана, заўважыў хлопчыка і кіўнуў, даючы дазвол на тое, каб памыць машыну.

Хлопчык вымыў гэту машыну, за ёй яшчэ адну, і яшчэ… Ён змываў з аўтамабіляў пясок і пыл, і шэрыя машыны ператвараліся ў чырвоныя, белыя, сінія, зялёныя… Хлопчык нават знайшоў у сваім новым занятку прыгажосць і сэнс: яму падабалася рабіць свет рознакаляровым. І ў кожнага, хто быў за рулём аўтамабіля, хлопчык пытаўся:

— Вы, часам, не ведаеце, дзе можна набыць глобус Еўропы?

Аўтамабілісты адмоўна круцілі галовамі: яны не цікавіліся ні астраноміяй, ні геаграфіяй. Толькі адзін мужчына, апусціўшы шкло, адказаў:

— На тым беразе, у Верхнім горадзе, стаіць Вялікая Астранамічная крама. Там ёсць усё.

Хутка ў хлопчыка былі поўныя кішэні грошай. Ён апаласнуў вядро і, павесіўшы яго на руку, скіраваўся ў бок Верхняга горада. Ён хацеў хутчэй патрапіць у Вялікую Астранамічную краму.

Хлопчык узышоў на мост. З кожным крокам ён набліжаўся да мары. Вядро біла хлопчыка па каленцы і гучна бразгала.

— Я скажу: дайце такую Еўропу, каб яна ўся зіхацела і круцілася! І яшчэ каб на ёй паказваўся час — такі самы, які на сапраўднай Еўропе. Каб я ведаў, што ў майго таты зараз — дзень ці ноч.

Але, не дайшоўшы нават да сярэдзіны маста, што звязваў з марай, хлопчык пачуў крык. Паглядзеў уніз. У рацэ плёскалася дзяўчынка. Яна сыходзіла пад ваду і зноў з'яўлялася на паверхні, спужана глытала паветра і цягнула рукі ўгору.

«Яна ж тоне!» — падумаў хлопчык. Ён у адзін момант збег з моста да вады, паставіў вядро, скінуў чаравікі і, не задумваючыся, плюхнуўся ў ваду. Хлопчык плаваў, як дэльфін, таму праз некалькі імгненняў быў каля дзяўчынкі. Ён падхапіў яе і пацягнуў да берага, дзе сабраліся людзі: яны заломвалі рукі, здымалі здарэнне на мабільнікі, але да вады не падыходзілі.

— Дзяўчынка! — перагаворваліся яны. — Яна ўпусціла ляльку ў ваду, пацягнулася за ёй, паслізнулася і ўпала з пагорка, а цячэнне падхапіла яе і аднесла ад берага!

Як толькі дзяўчынка аказалася на пяску, людзі зашапталіся: «Дачка мэра! Гэта ж дачка мэра!» Усе адступілі яшчэ далей, каб, у выпадку чаго, не апынуцца вінаватымі.

Праз натоўп прарвалася жонка мэра. Яна падбегла да дачкі і схапіла яе на рукі. Дзяўчынка, спалоханая, але жывая, заплакала.

— Донечка! Мая донечка! Усё добра, ты са мной, зараз паедзем дадому…

Кола людзей сашчапілася вакол жанчыны з дзіцём. Хлопчык застаўся на пяску адзін.

Ён падцягнуў да сябе вядро і сунуў рукі ў кішэні. Яны былі пустыя — вада вымыла з іх грашовыя паперкі. Цячэнне сцягнула ўвесь заробак хлопчыка на сярэдзіну ракі, і купюры пярэстымі караблікамі павольна сплывалі да мора, а недзе ў астранамічнай краме блішчала белымі бакамі прыгажуня-Еўропа, да якой зноў былі мільёны кіламетраў.

Хлопчык пачаў замярзаць. Ён уцягнуў шыю ў мокры каўнер і азірнуўся, шукаючы, дзе б можна было сагрэцца.

Раптам пачулася:

— Хлопчык? Дзе той хлопчык, што выцягнуў маю дачку?

Натоўп расступіўся, і жонка мэра падбегла да хлопчыка.




— Вось ты дзе! Дзякуй табе. Калі б не ты… — тут жанчына павярнулася да людзей і закрычала, — гэты хлопчык — сапраўдны герой! Ён выратаваў маю донечку! Чаму ўсе стаяць? Дзе паліцыя? Дзе хуткая дапамога? Яго трэба сагрэць і ўзнагародзіць!

Людзі заапладзіравалі. Апладысменты атрымаліся ціхімі: гледачы не пераставалі здымаць свае відэаролікі, таму хлопалі вольнымі далонямі па сцёгнах. Чыесьці моцныя рукі падхапілі хлопчыка і панеслі ад ракі наверх — туды, дзе ўжо чулася скавытанне сірэны «хуткай дапамогі».

— Дарогу маленькаму герою! — крычалі вакол.

Хлопчык трымаў сваё вядро і думаў: «Мама будзе хвалявацца, чаму мяне так доўга няма…»

Хлопчыку надзелі на шыю бліскучы медаль і ўручылі вялікі букет кветак. Мэр горада паціснуў «Юнаму выратавальніку на вадзе» руку і сказаў, звяртаючыся да тэлекамер:

— Сёння ты — герой. Гераізм — такая рэдкая з'ява ў нашы дні… Героі маюць права выбіраць сабе ўзнагароду, а мы не маем права быць скупымі. Хочаш, я адвяду цябе ў самы буйны магазін цацак, і ты возьмеш там усё, што табе захочацца?

— Не…

— Так-так, я ведаю. Напэўна, ты хочаш у магазін спартыўных тавараў?

— Не. Спадар мэр, я хачу ў Вялікую Астранамічную краму, — сказаў хлопчык і пачырванеў.

— Ты захапляешся астраноміяй? Які неверагодны хлопчык! Што ж, гэта твой выбар! Хай будзе так! — абвясціў мэр, і рэпарцёры зашчоўкалі фотаапаратамі.

Мэр пасадзіў хлопчыка ў свой аўтамабіль, і ён ехаў, як сапраўдны прынц, кветкі казыталі яму шчокі і шыю, а ўсе жыхары горада паказвалі на машыну ды казалі: «Гэта той самы хлопчык, які выратаваў дачку мэра!»

Вялікая Астранамічная крама была такая ж неабсяжная, як космас. Чаго ў ёй толькі не было! Папяровыя і электронныя энцыклапедыі, праектары Млечнага Шляху, зорныя карты, тэлескопы — ад самых маленькіх да такіх агромністых, што з імі ў камплекце прадаваліся лесвіцы! Тут можна было набыць кавалкі метэярытаў і астэ-

роідаў, лунны грунт і меркурыянскія камяні (модніцы ўстаўлялі іх у пярсцёнкі), паветра з Венеры ў вакуумных шкляных тубах, скафандры, кансервы «Сняданак касманаўта», макеты ракет і касмічных караблёў, агурковую расаду, прарошчаную ва ўмовах бязважкасці — і, канешне, глобусы ўсіх планет і іх спадарожнікаў розных мадыфікацый, ад нерухомых да такіх, якія ўмелі размаўляць на некалькіх мовах.

Крама пералівалася, свяцілася, міргала агеньчыкамі, з розных аддзелаў чуліся музыка, размовы і «белы шум», праз які ледзьве заўважна прабіваліся сігналы з самых далёкіх куткоў Галактыкі.

У краме было поўна народу, а дырэктар ужо чакаў мэра і хлопчыка на першым паверсе. Убачыўшы важных гасцей, дырэктар пакланіўся мэру і падскочыў да хлопчыка:

— Прывітанне! Выбірайце, выбірайце ўсё, што вам хочацца!

— Я хачу глобус Еўропы, — збянтэжана сказаў маленькі герой.

— Нечаканы выбар! — здзівіўся дырэктар і пляснуў у ладкі. — Прынясіце сюды самую новую Еўропу!

Праз хвіліну з'явіліся асістэнты з падарункам. Вялікі, электронны, з блакітным унутраным падсвятленнем і падрабязным рэльефам ільдзяной, перарэзанай шнарамі ад метэярытаў, паверхні, зіхоткі, як дыямент, глобус Еўропы апусціўся ў рукі хлопчыка.

— Паглядзіце! Маленькі герой атрымаў сваю ўзнагароду! — ахнулі прысутныя ў захапленні.

Мэр гучна звярнуўся да хлопчыка, каб чулі ўсе:

— Ты мог выбраць усё, што заўгодна — веласіпед, падарожжа ў любую краіну свету, мора цукерак або, напрыклад, пажыццёвы абанемент у кінатэатр. Але ты выбраў гэты цудоўны падарунак — глобус самага халоднага, нявывучанага да канца, патаемнага спадарожніка Юпітэра — каралевы льдоў і снягоў, марознай Еўропы. Запомніце гэтага хлопчыка! Магчыма, ён стане тым адважным каланізатарам, які адправіцца на Еўропу і адкрые там першую касмічную базу!

— Што… што вы сказалі? — перапытаўся хлопчык.

— Я сказаў, — паўтарыў мэр, — што, магчыма, ты будзеш першым чалавекам, чыя нага кранецца ледзяной паверхні Еўропы.

Сэрца хлопчыка затахкала, перакрываючы гудзенне прыбораў і чалавечых галасоў, а да горла падступіў горкі камяк.

— Хіба там не жывуць людзі? — спытаў маленькі герой.

— Не, хлопчык, — рассмяяўся мэр. — Пакуль што на Еўропе няма нікога, з кім ты мог бы павітацца за руку і задушэўна пагаварыць. Еўропа — адзіны з Галілеевых спутнікаў волата-Юпітэра, на які чалавецтва яшчэ не забралася. Першая экспедыцыя загінула, не дасягнуўшы Еўропы, восем гадоў таму. Але час, калі мы высадзімся на Еўропе, абавязкова надыдзе, дзякуючы такім героям, як ты!

Вялікая Астранамічная крама ўзарвалася апладысментамі, заміргалі фотаўспышкі.

Вакол Юпітэра ляцелі па сваіх нязменных арбітах гарачая Ія, жалезны Ганімед, каменная Каліста, і на іх удзень і ўначы вялася бесперапынная праца: велізарныя буры ўгрызаліся ў лёд, цяжкія машыны драбілі скальную пароду, людзі неслі вахту на базах і каля іх.

А хлопчык прыціскаў да сэрца сваю халодную Еўропу, на якой яго ніхто не чакаў.

***Алёна БЕЛАНОЖКА***

***Алёна Беланожка — пісьменніца з Магілёва — не толькі напісала для цябе, дружа, гэта апавяданне, але і расказала пра гісторыю алоўка ў рубрыцы «Табе навука». Наступным разам яна мо яшчэ што цікавае распавядзе?***

# «Чортаў скарб» і параная рэпа



Мастачка Вольга ХАТКОЎСКАЯ

*У нейкім прыгожым краі, трошкі бліжэй Сонца і трошкі далей ад Месяца,* як піша Уладзімір Караткевіч, маючы на ўвазе наш край і ніякі іншы, стаяла адна хата. Жыў у ёй селянін Янка, здаровы, як зубр, надта добры і не дужа мудры. *Было ў яго пяцьдзясят сыноў, сорак валоў і кошка. Ну, можа, не пяцьдзясят сыноў, а тры, не сорак валоў, а два. Але кошка была, гэта ўжо можаце мне паверыць. Пярэстая. З чатырма лапамі. З адным хвастом.*

А было гэта, трэба ўдакладніць, так даўно, што на Беларусі тады яшчэ вадзіліся чэрці. Розныя былі. *Адзін жыў у вадзе, пасвіў шчупакоў, лінёў ды акунёў. Быў зялёны і калматы, вельмі падобны на купу твані. Звалі яго Вадзянік. Другі жыў у лесе, пасвіў аленяў і быў падобны на аброслы мохам пень. Калі сустрэнеш, то і не адрозніш. Звалі яго Лесавік.*

Самы шкодны чорт жыў па хатах і пасвіў цвыркуноў. *Рожкі ў яго былі, як у козкі, зубкі, як часначок, хвосцік, як памялцо. І аблюбаваў гэты чорт Янкаву хату. І не тое каб са злосці шкодзіў, а проста быў свавольнік.* А было гэта, зноўку трэба ўдакладніць, так даўно, што тады яшчэ на Беларусі нават бульбы не вадзілася. Замест бульбы парылі рэпу. І вось ноч. Глухая. І чорт тут як тут. *Скаціўся комінам, узняўшы цэлую хмару сажы, і пачаў у печы, злодзей такі, шнарыць і мацаць. «Ага, рэпа. Вось гэта якраз тое, што мне трэба. Я люблю рэпу». Адсунуў чорт засланку, вывалак гаршчок на прыпечак, сеў, звесіўшы ногі, і пачаў ласавацца салодкай паранай рэпай, а лушпайкі ўніз кідаць.* Нічога, маўляў, гаспадыня заўтра падмяце.

Пазнаў, дружа, казку? «Чортаў скарб» называецца. А рэцэптам паранай рэпы я з табой падзялюся.

***Што спатрэбіцца:***

***Рэпа і гліняны гаршчок.***

***Як гатаваць:***

Рэпу трэба добра памыць і пазбавіць скуркі. У казцы чорт рэпу чысціць, калі яна ўжо згатавана, але ж мы памятаем, чым там для яго справа скончылася. Дарэчы, з той самай прычыны лушпінне лепей кідаць у сметніцу, а не абы-куды. Пачышчаную рэпу наразаем саломкай. А невялікую можна гатаваць і цалкам. У гаршчочак з ёю дадаём крыху солі і наліваем трошкі вады. Абавязкова накрываем. Канешне, самая смачная і салодкая рэпа павінна парыцца ў сапраўднай вясковай печцы, але калі яе няма, то і духоўка падыдзе. Пры тэмпературы 160—180 градусаў праз 40—60 хвілін ласунак продкаў будзе гатовы.

Смачна есці!

# Бярозка

Ствараць лепшае

*Штомесячны грамадска-палітычны*
*і літаратурна-мастацкі часопіс (для школьнікаў)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***
***Узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны»***



**01** Верасок-паэзія
**04** Верасок-проза
**24** Школа журналістыкі. Першы зімовы паход

**39** Літаратурныя старонкі. Паэзія. Мікола Чарняўскі. Зазнайка
**42** Літаратурныя старонкі. Проза. Алёна Беланожка. Глобус Еўропы

**10** Бел. літ. Загадкі палясоўшчыка («Тарас на Парнасе»)
**14** Практыкум. Артыкул. Пакуль без назвы
**15** Перапынак
**26** Настаўніцкая на праслушцы. А раптам яны на тваім баку?!
**32** Сітуацыя плюс. Пра каханне

**19** КінаШкола. Чатыры канспекты на выбар
**28** Гісторыя поспеху. Чатыры гадзіны ў чарзе за марай
**30** Псі-факторыя. Завалодай яе ўвагай!

**13** 13-я. Калонка прывіда
**16** Зубронак. Важатая — чалавек дарослы
**18** Зубронак. Сюды вядуць краязнаўчыя сцежкі
**22** Табе навука. Аловак
**34** Я сардэчка Беларусь. Ліст да расійскага сябра
**35** Я сардэчка Беларусь. І гучала над калыскай…
**37** Я сардэчка Беларусь. Легенды
**47** Гатавальня. «Чортаў скарб» і параная рэпа

Зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ.
Рэгістрацыйны № 210.

**Заснавальнік і выдавец**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

**Адрас рэдакцыі**
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.
bjarozka@mail.ru
http://www.maladost.lim.by/berezka

**Падпісныя індэксы:**
74879 — льготны
74822 — індывідуальны
748222 — ведамасны

Падпісана да друку
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк 5,28.
Тыраж 1043 экз.
Заказ

Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «СтройМедиаПроект»
220123, Мінск, влу. В. Харужай, 13/61
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014


***На першай старонцы вокладкі — малюнак вучня Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў Аляксандра Алісейчыка***



*— Пап, можна я пасяджу за камп'ютарам?*
*— Пасядзі, сынок, пасядзі! Толькі не ўключай!*

— Вы гаворыце па-англійску?
— Толькі са слоўнікам.
— А з людзьмі што, саромеецеся?

***Як зрабіць вечны рухавік у школе? Ды вельмі проста! Прымацаваць у калідоры да сцяны ручку і напісаць: «Круціць забараняецца!»***

Вучань спазніўся на ўрок. Настаўнік:
— Ваня, чаму ты спазніўся?
— Ды старэйшы брат білет на футбол згубіў, паўгадзіны шукаў, потым махнуў рукой і пайшоў.
— Не разумею, а ты тут пры чым? Дапамагаў яму шукаць?
— Ды не, я ўвесь гэты час на білеце прастаяў!

***І яшчэ аб спазненні:***
***— Вася, чаму спазніўся?***
***— Ды іду я і бачу, як старэнькая бабулька гуляе на камп'ютары. Ну і дапамог ёй перайсці на наступны ўзровень.***

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Які знак трэба паставіць паміж 6 і 7, каб у выніку атрымалася менш за 7 і больш за 6?
**2.** У каго за носам пятка?
**3.** Як чалавеку схітрыцца і не спаць 8 дзён?
**4.** Чым заканчваецца ўсё?
**5.** Два чалавекі гулялі ў шашкі. Кожны згуляў па пяць партый і выйграў па пяць разоў. Як такое магло быць?
**6.** Ці можна кінуць сырое яйка так, каб яно праляцела дзесяць метраў і не разбілася?
**7.** Хто становіцца вышэйшым, калі садзіцца?
**8.** Мужчына вёў вялікі грузавік. Фары не гарэлі, ліхтары таксама, месяца на небе не было. Раптам чорны сабака выбег на дарогу, але кіроўца паспеў своечасова націснуць на тормаз. Як яму ўдалося ўбачыць сабаку?
**9.** Што з зямлі лёгка ўзняць, але цяжка далёка закінуць?
**10.** Пеця і Міша гулялі ў брудным і цёмным склепе. Калі яны вылезлі: у Пеці твар быў брудным, а ў Мішы застаўся чыстым. Нягледзячы на гэта, менавіта Міша пабег мыць твар. Чаму?
**11.** Пазаўчора Пецю было 12 гадоў. А ў наступным годзе яму будзе 15. Як такое можа быць?

## Падарунак ад Вожыка



Мастак Аляксандр КАРШАКЕВІЧ

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Коску.
2. У абутку.
3. Трэба спаць па начах.
4. Літарай «ё».
5. Абодва гулялі з іншымі людзьмі.
6. Трэба кінуць яго на адзінаццаць метраў. Тады першыя дзесяць метраў яно праляціць цэлым.
7 Сабака.
8 Быў ясны сонечны дзень.
9. Пух.
10 Міша ўбачыў, што ў Пеці брудны твар і вырашыў, што ягоны твар таксама брудны. Пеця, убачыўшы чысты твар Мішы, падумаў, што і з ягоным тварам таксама ўсё ў парадку.
11. Калі сёння – 1 студзеня, а дзень нараджэння ў Пеці 31 снежня. Тады пазаўчора (30 снежня) яму было яшчэ 12 гадоў, учора (31 снежня) споўнілася 13 гадоў. Напрыканцы гэтага года споўніцца 14, а ў наступным – будзе 15.

# Дошка аб'яў!

Часопіс «Бярозка» з радасцю надрукуе падлеткавыя дзённікі вядомых і невядомых сучаснікаў. Прымаем сшыткі з запісамі ў любым стане.

Мінск, Незалежнасці, 39

Часопіс «Бярозка» прапануе настаўнікам прыняць удзел у інтэрактыўным праекце «Настаўніцкая на праслушцы». Маеце што сказаць вучням так, каб яны пачулі? Давайце мы вас быццам бы падслухаем! Чакаем вашых тэлефанаванняў.

8-017-284-85-24

Часопіс «Бярозка» абяцае прыз той школе, якая «засвеціцца» на старонках часопіса найбольшую колькасць разоў. Прыз у канцы года ўручыць… А гэта — сакрэт!

Часопіс «Бярозка» запрашае актыўна адгукацца на заданні і прапановы, пададзеныя пасля матэрыялаў. Актыўных чытачоў ужо чакаюць прызы.

bjarozka@mail.ru

Часопіс «Бярозка» друкуе вершы і апавяданні для школьнікаў, напісаныя самымі таленавітымі паэтамі і празаікамі краіны. Хто лічыць сябе такім, просім звяртацца ў рэдакцыю адразу з творамі.

8-017-284-41-88

74879 — льготны

74822 — індывідуальны

748222 — ведамасны

Часопісу «Бярозка» тэрмінова патрабуюцца «свае людзі» у кожнай школе, якія б клапаціліся пра тое, каб іх школы былі прадстаўлены ў любым нумары, любым даступным спосабам, у любой з існуючых рубрык. «Вакансія» актуальная для школьнікаў і настаўнікаў.

8-017-284-85-24

Часопіс «Бярозка» прапануе школьнікам, якія мараць стаць журналістамі, штомесяц запаўняць сваімі «трэніроўкамі» (нечым падобным да артыкулаў, эсэ, інтэрв'ю, рэпартажаў) старонкі рубрыкі «Школа журналістыкі». «Віза» рэдактара на момант паступлення аўтара ў Інстытут журналістыкі гарантуецца.

zaharevichek@mail.ru





ISSN 0320-7579

9 770320 757007 15002